*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
18
ВЕРАСНЯ
1992 г.
№ 38 (3656)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы —
10 кап.)


## «ТОВАРИЩИ НЕ ПОНИМАЮТ...»

**Валерый ПАЛСЦЮК: «Справа адукацыі ў любой, нават самай рынкавай краіне — гэта справа ў першую чаргу дзяржавы».**

Старонка 5

## СВЕТЛЫ ДАРАГІ МАКСІМ...

**Зянон ПАЗНЯК: «Мне даўно хацелася пабываць на магіле Максіма Багдановіча ў Ялце... Крым для мяне адухоўлены Максімам. Памятаеце: «там мы злiём з ёй погляды свае...» Гэта з Мілавіцай. І калі б я ні глядзеў на гэтую зорку — памятаю пра Багдановіча. А тут — цэлая краіна, дзе можна хадзіць пехатой...»**

Старонкі 8—9

## ПЕРАЖЫВАЦЬ ЗА КУЛЬТУРУ— ЗНАЧЫЦЬ ПЕРАЖЫВАЦЬ ЗА СВОЙ НАРОД

**Іспанскія згадкі Пятра ДУДАРЭНКІ.**

Старонкі 10—11

## УСЁ ПРА ТОЕ Ж...

**З пісьменніцкага дзённіка Барыса САЧАНКІ.**

Старонкі 14—15

## ВЯРНІЦЕ НАРАБАВАНАЕ!

**Вячаслаў ПІЛІПЧЫК: «Сёння горад Нясвіж не можа сабраць музей, а наша багацце, зробленае нашымі продкамі, цешыць людзей у Маскве ці Санкт-Пецярбурзе».**

Старонка 16



**Вераснёўскі спакой.**

Фота Аляксея МАЦЮША.

# Кола Дзён

Па нашых назіраннях, з пачаткам асенняга палітычнага сезону рэзка пачала ўзрастаць папулярнасць дэмакратычнай апазіцыі, БНФ «Адраджэнне». Добра, што ў нас ёсць моцная, актыўная апазіцыя... Аднак тыдзень завяршыўся актывізацыяй іншага полюсу апазіцыйных сіл: у чацвер, 17 верасня на пляц Незалежнасці, гэтае апірышча БНФ, сабраліся партыі і суполкі неакамуністычнай накіраванасці. Нашага назіральніка ўразіла, што падобныя ідэі ну ніяк не пасобіла выказаць па-беларуску. *Выдае, што гэта дзве ў прынцыпе несумяшчальныя рэчы* неакамунізм і беларуская мова...

Дарэчы, апошняя заканамернасць характэрна і для Савета Міністраў рэспублікі, які, відаць, асцерагаецца, што па-беларуску не зможа прафесійна працаваць. Паводле выказванняў прэм'ер-міністра В. Кебіча на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, Саўміна яшчэ замінаюць працаваць і законы...

**8 ВЕРАСНЯ**

У Крамлі міністры абароны Расіі і Летувы падпісалі шэраг дамоў аб вывадзе расійскіх войск з тэрыторыі Летувіскай рэспублікі. Зацверджаны графік вываду войск, які разлічаны да 31 жніўня 1993 года. Тым часам у Смаргоні фармуецца першы беларускі папранатрад дзеля пільнавання мяжы з Летувой. Што можа пагражаць Беларусі з тэрыторыі абяззброенай рэспублікі?

**9 ВЕРАСНЯ**

Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі Дэвід Х. Суорц уручыў даверчыя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічу. Афіцыйную прамову пасол казаў па-беларуску.

Магілёў наведала дэлегацыя прафсаюзаў ізраільскага горада Пятахцікава. Падпісаны дагавор з абласным саветам аб'яднання прафсаюзаў аб абследаванні і лячэнні дзяцей з вобласці ў Ізраілі.

**10 ВЕРАСНЯ**

Адбылося пасяджэнне Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь, на якім абмяркоўвалася падрыхтоўка ваеннай дактрыны краіны. Вырашана распрацаваць у хуткім часе графік дэмантажу і вывазу ў Расію ядзерных аб'ектаў, якія ёй належаць. Аб гэтым паведаміла перадача «Радыёфакт».

Прайшла тэарэтычная канферэнцыя амерыканскіх палітолагаў і Беларускага народнага фронту па праблемах стварэння блока дэмакратычных партый падчас выбараў. Надалей мяркуецца супольна абмеркаваць праблему свабоды прэсы.

**11 ВЕРАСНЯ**

Адбылося пасяджэнне сойма БНФ «Адраджэнне», на якім абмяркоўвалася падрыхтоўка апазіцыі да сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Адбылося пасяджэнне ініцыятыўнай групы па падрыхтоўцы ўсебеларускага рэферэндуму.

У Беларусі з неафіцыйным візітам знаходзіўся былы прэм'ер-міністр дзяржавы Ізраіль І. Шамір, які наведаў свой родны гарадок Ружаны Брэсцкай вобласці, дзе жыў да дваццаці год. Раней, як вядома, у Беларусь, на сваю радзіму ў Валожынскі раён, прыязджаў цяперашні міністр замежных спраў Ізраіля Ш. Перэс.

**12 ВЕРАСНЯ**

Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на якім паміж іншага абмяркоўваўся праект Закона «Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзян Рэспублікі Беларусь». Паводле распрацаванай канцэпцыі пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, гэты дакумент будзе асноўным пасведчаннем асобы грамадзяніна на тэрыторыі рэспублікі, і гэтаксама служыць асноўным дакументам пры выездзе за мяжу.

На гэтым жа пасяджэнні выступіў Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч. Прэм'ер-міністр заявіў, што галоўнай задачай ўрада на сённяшні дзень ён лічыць барацьбу з карупцыяй у структурах улады і злачыннасцю ўвогуле. В. Кебіч моцна крытыкаваў міністра ўнутраных спраў рэспублікі У. Ягорава.

**14 ВЕРАСНЯ**

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч паехаў з афіцыйным візітам у Федэратыўную Рэспубліку Германіі. Падчас яго побыту ў РГ праведзены шэраг сустрэч і палітычных кансультацый з кіраўніцтвам нямецкай дзяржавы па пытаннях узаемасупрацоўніцтва дзвюх краін у галінах навукі, культуры, адукацыі і іншых сферах. Абмяркоўвалася магчымасць адкрыцця ў ФРГ Пасольства Рэспублікі Беларусь. С. Шушкевіч у часе візіту прыняў таксама ўдзел у міжнародным кангрэсе «Еўропа і свет у пераломны момант», дзе выступіў з дакладам па праблемах развіцця нашай рэспублікі.

**15 ВЕРАСНЯ**

Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч накіраваўся з урадавым візітам у Рэспубліку Казахстан дзеля падпісання міжурадавых пагадненняў. Меркавалася падпісаць каля дзевяці дакументаў, у іх ліку пагадненні па тарыфах, паветраным транспарце, закупцы збажыны (каля двух мільёнаў тон).

**16 ВЕРАСНЯ**

По другім канале рэспубліканскага радыё пачалася трансляцыя радыёпраграмы «Крыніца», што працуе ў эфіры з 8-й да 9-й гадзіны. «Крыніца» мае трансфармавацца ў другую нацыянальную радыёпраграму. Калектыў праграмы збольшага складзены з журналістаў маладзёжнай рэдакцыі Беларускага радыё.

# У КРАЮ ТЫМ, ШТО СЭРЦУ МІЛЫ

## На Стаўбцоўшчыне прайшло Рэспубліканскае свята паэзіі «Коласавы мясціны», прысвечанае 110-годдзю з дня нараджэння народнага песняра



Выступае Іван ШАМЯКІН.

«Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!» — у пазамінулую нядзелю гэтыя незабыўныя словы, якімі пачынаецца неўміручая паэма Якуба Коласа «Новая зямля», часта абуджалі маляўнічыя мясціны радзімы песняра — Стаўбцоўшчыну. Гучалі, пакладзеныя на мелодыю кампазітарам Ігарам Лучанком, клікалі туды, дзе нарадзіўся класік нацыянальнай літаратуры, дзе вытокі яго песні.

Гэтыя словы прысутнічалі, бадай, і ў думках кожнага ўдзельніка свята. Не маглі не прысутнічаць. Бо нельга быць сапраўдным беларусам, не захапляючыся «Новай зямлёй» і «Сымонам-музыкай», не перачытваючы «Рыбакову хату», «Дрыгву», «На ростанях». Такі ён — свет Я. Коласа. Неабсяжны і вабны, адкрыты і вечна загадкавы, таямнічы. Спасцігаць яго — значыць, пастаянна, штораз адкрываць для сябе нешта новае, дагэтуль не заўважанае.

Свята нездарма атрымала назву «Коласавы мясціны». Яго ўдзельнікі і госці мелі шчаслівую магчымасць прайсціся памятнымі сцежкамі песняра і яго герояў, найперш тых, што жывуць і будуць жыць вечна на старонках энцыклапедыі жыцця беларусаў — «Новай зямлі».

Спачатку — Акінчыцы. Колішні засценак, а цяпер ускраіна Стоўбцаў. Тут бацька паэта служыў леснікам у князя Радзівіла. Аб тагачасным побыце сям'і Міцкевічаў нагадвае іхняя сядзіба, якая захавалася такой, *якой была і 110 гадоў назад*. Пра гэта расказваюць і матэрыялы філіяла Літаратурнага музея Я. Коласа. Адсюль, з Акінчыц, пачынаецца так званы «Шлях Коласа» — дарога, аздобленая драўлянымі скульптурамі. Яны адлюстроўваюць пэўныя моманты жыцця і творчасці песняра, найперш — вытокі.

Пра вытокі паэзіі Я. Коласа, пра яго знітаванасць са стаўбцоўскай зямлёй гавораць ля хаты, у якой нарадзіўся ён, унук дзядзькі Юзіка Юрась Міцкевіч, Уладзімір Карызна, Алесь Рыбак...

Людна, весела ў Акінчыцах. Тут, *непадалёку ад філіяла музея*, выступаюць вядомыя самадзейныя калектывы Міншчыны, гучаць народныя песні, у тым ліку і тыя, якія любіў Я. Колас. У вясёлы гурт запрашаюць гасцей танцоры...

Пасля Акінчыц Міцкевічы жылі на так званай Мікалаеўшчынскай лясной заставе — ля дарогі са Свержаня ў Мікалаеўшчыну, *пасля* ў Сухоншчыне, або Ластку, а потым — у Альбуці...

Зараз тут таксама філіял музея песняра. Тут усё, «як раньш было». Хіба што адно засмучае — пад невялікім мастком няма рачулкі. А раней жа... «Цякла тут з лесу невялічка травой зарослая крынічка, абодва берагі каторай лазняк, ракітнік абступалі...» Няма крынічкі, ды ёсць хата, дзе жылі Міцкевічы, засталіся *дубы, якія памяталі* Кастуся. Жыве памяць пра песняра. Жыве і жыць будзе. Словы ўдзячнасці яму, аднаму з пачынальнікаў беларускай літаратуры, выказваюць Мікола Мятліцкі і Генрых Далідовіч.

Багатая экспазіцыя ў філіяле Літаратурнага музея Я. Коласа ў Смольні — гэта ўжо ля Мікалаеўшчыны. Не меней за экспазіцыю можа расказаць і старая хата. Менавіта ў ёй упершыню сустрэліся Я. Колас і Я. Купала, два выдатныя адраджэнцы зямлі беларускай, два волаты нацыянальнай літаратуры. Вершы, прысвечаныя песняру, чытаюць тут Сымон Белы і Уладзімір Пецюкевіч.

Нарэшце — Мікалаеўшчына. Ля школы, пабудаванай Я. Коласам на ўласныя сродкі, яго бюст. Кветкі да яго ўскладаюць Ніл Гілевіч і старшыня Мінскага аблвыканкома Альфонс Цішкевіч. Слова пра песняра гаворыць дырэктар Літаратурнага музея Я. Коласа Зінаіда Камароўская, вершы чытаюць вучаніца Мікалаеўшчынскай сярэдняй школы Люда Міткевіч, ураджэнец Мікалаеўшчыны Алесь Камароўскі, Уладзімір Скарынкін.

Госці кіруюцца ва ўрочышча Бервянец. Тут, *ля славутых* Коласавых дубоў, адбываецца ўрачыстае адкрыццё свята. Да прысутных звяртаецца Н. Гілевіч. «Якуб Колас, — гаворыць ён, — з'ява ў духоўным развіцці беларускага народа — незвычайная, непаўторная, неабсяжная. Вялікі мастак-мысліцель, ён адначасова стаў і сапраўдным настаўнікам нацыі. Так распарадзілася сама гісторыя...» Разважаючы аб творчасці песняра, прамоўца нагадвае, што Я. Колас быў першым, хто абхапіў сваёй душой увесь духоўны свет беларуса. Я. Колас — глыба, з якой бачыцца мудрасць вякоў, мудрасць і вопыт народа.

Адзін за адным падыходзяць да мікрафона прамоўцы: старшыня Мінскага аблвыканкама А. Цішкевіч, Пятрусь Макаль, Мікола Аўрамчык, Сяргей Законнікаў, Іван Шамякін, Вольга Іпатава, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Паўлаў, Уладзімір Някляеў, Барыс Сачанка, Генадзь Тумаш, Яўген Хвалей...

Гучаць пранікнёныя словы пра жыццё і творчасць песняра, вершы, прысвечаныя яму...

А свята доўжыцца. Сваё майстэрства паказваюць народны ансамбль танца «Радасць» з Брэста, Воранаўскі народны ансамбль народнай музыкі «Лявоны», Бабруйскі ансамбль танца, фальклорны ансамбль з Рэспублікі МарыЭЛ... Завяршаюць канцэрт сумесным выступленнем лепшыя калектывы Стаўбцоўшчыны. Па наваколлі плывуць гукі песні пра Нёман — раку, якая давала натхненне Я. Коласу, раку — якую ён гэтак любіў.

**НАШ КАР.**



Самыя ўдзячныя слухачы.



Ля студні ў Смольні.

Фота А. САСІНОЎСКАГА.

# «ЛіМ»-93

**Ідзе другі месяц падпісной «кампаніі». Сёлета яна адбываецца ва ўмовах няпэўнасці і бязладдзя, якія ў нас называюцца «рынкам». Тым не менш, надыходзіць час канчаткова вырашыць, як скарыстаць адшкадаваныя на падпіску грошы.**

**Дарагія чытачы-лімаўцы! Верым у вашую адданасць і нязменную прыязнасць да нашай з вамі газеты.**

**Спадзяёмся таксама і на тое, што шэрагі падпісчыкаў «ЛіМа» папоўняць тыя, хто толькі пачынае ўсведамляць сябе грамадзянінам незалежнай Беларусі, цікавіцца яе багатай гісторыяй і самабытнай культурай, хто шукае сябе на няпростых шляхах нашага духоўнага Адраджэння.**

**Нагадваем, кошт паўгадавой падпіскі на «ЛіМ» — усяго 60 рублёў (на месяц — 10, на тры месяцы — 30 рублёў). Індэкс ранейшы — 63856.**

**Вельмі засмучаны тым, што сёння пазбаўлены магчымасці выпісаць «ЛіМ» нашыя чытачы ў блізкім і далёкім замежжы. Здарылася так не па віне рэдакцыі. Хочацца верыць, што гэтая недарэчнасць будзе выпраўлена і падпісацца на беларускі штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» можна будзе ў любым кутку свету.**

ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

# Ведаць праўду пра пісьменнікаў...

**Яшчэ год назад і падумаць было нельга, што такое магчыма — каб у сценах Вышэйшай партыйнай школы сабраліся нашы сябры з далёкага і блізкага замежжа вывучаць не якія-небудзь тонкасці палітыкі «кіруючай і накіроўваючай», а беларускую мову і літаратуру. І тым не менш гэта сталася: з 1 па 25 жніўня Міжнародная школа беларускай мовы, літаратуры і культуры (МШБ) вучыла гаварыць па-беларуску грамадзян іншых краін у будынку былой партшколы, дзе цяпер месціцца філфак БДУ. 25-га жніўня ў школе адбыўся выпуск чарговага набору слухачоў. Крыху раней, 21 жніўня, падсумоўваючы цыкл лекцый па літаратуры, культуры і гісторыі Беларусі, прайшоў сімпозіум на тэму: «Творчая спадчына Я. Купалы і Я. Коласа ў кантэксце духоўнай культуры народаў свету (да 110-й гадавіны класікаў беларускай літаратуры)». У ім прынялі ўдзел: Д. Міцкевіч — сын Якуба Коласа, былы дырэктар музея Якуба Коласа ў Мінску, Т. Шамякіна—дацэнт, выкладчык беларускай літаратуры БДУ; Г. Колас—літаратурны і тэатральны крытык, кінадраматург, А. Рагуля — дацэнт, выкладчык беларускай літаратуры педінстытута.**

...Здавалася б, якая справа грамадзянам Аўстрыі, Швейцарыі, Германіі, Канады, ЗША, Польшчы, Югаславіі да нейкага там пісьма Якуба Коласа ў неіснуючы цяпер ЦК? Аднак жа слухаюць! І слухаюць уважліва. Д. Міцкевіч апавядае пра яго гісторыю, пра мікраклімат у сям'і Коласа, пра бацькоўскія метады выхавання, пра маці — аказваецца, жонка Якуба Коласа была па сваіх перакананнях «талстоўкай» і яшчэ ў 30-ыя з асуджэннем ставілася да жорсткасцей сталінскай палітыкі. Я таксама слухаю ўважліва і задаю сабе пытанне: ці не залішне доўга мы корпаемся ў сваім мінулым, перафразуючы загаловак вядомага артыкула, ці не залішне доўга плача песня наша? І пасля роздуму адказваю: не, не залішне, бо без гэтага не зразумець ім, замежнікам, хто ёсць мы, беларусы. Без ведання натхняючага прыкладу Коласа і нам, беларусам, не дабраць сілы ў сённяшнім змаганні з абыякавасцю да праблем нацыянальнай культуры. І яны, і мы павінны ведаць, што ва ўсе, нават самыя змрочныя часы былі людзі, у якіх ставала чалавечнасці, грамадзянскай мужнасці сказаць слова ў абарону інтарэсаў нацыі, у абарону роднага кута, у абарону роднай мовы.

Аднак сімпозіум не стаўся самалюбаваннем, пахвальбою перад гасцямі біяграфіямі нашых класікаў. Больш таго, як заўважыў А. Рагуля, пры ўсёй значнасці зробленага і Купалам, і Коласам, яны — наша мінулае, хоць і геніяльная, але спадчына. Мы мусім ісці наперад. А што тычыць мастацкага ўзроўню, філасофска - эстэтычнай вартасці іх твораў, на чым А. Рагуля закцэнтаваў увагу, то класікі беларускай літаратуры не стаялі ўбаку ад еўрапейскай цывілізацыі, а йшлі ў рэчышчы сучасных свету праблем, у рэчышчы пошукаў перадавых філосафаў Еўропы. Ён адзначыў прароцкасць вершаў і паэм Купалы, а паэму «Сон на кургане» аднёс да прарочых, дзе прадказаны многія катаклізмы XX стагоддзя. Падкрэсліваючы трагізм беларускай, ды, зрэшты, і ўсёй т. зв. савецкай літаратуры 30-х гадоў, А. Рагуля параўнаў пісьменнікаў таго драматычнага перыяду з Фаўстам, што паражыў хаўрус з Мефістофелем. І ў гэтых адносінах вельмі слушнай была фраза, прамоўленая Г. Коласам. «Нам трэба даследаваць, што ў 30-я гады адбывалася з пісьменнікамі».

Сапраўды, як некалі заўважыў І. Жук, выступаючы на старонках «ЛіМа» ў дыскусіі па рамане К. Чорнага «Трэцяе пакаленне», многія старонкі рамана напісаны не пісьменнікам, а абставінамі. І ці мала такіх старонак, а то й цэлых твораў у літаратуры 30-х? Хіба **Купалам** напісана паэма «Над ракой Арэсай»? А «Адшчапенец» Коласа? А хто сапсаваў «Язэпа Крушынскага» Змітрака Бядулі? А хто не даў Крапіве дапісаць яго раман «Мядзведзічы»? Абставіны? Д'ябал?..

Т. Шамякіна выдатна паказала высокую духоўнасць, закладзеную ў асновы беларускай літаратуры яе класікамі. Аналізуючы творчасць Я. Купалы і Я. Коласа, яна прадэманстравала спрадвечную, глыбінную рэлігійнасць іх паэзіі і прозы. Так, мы са школьнай парты ведаем скептычныя, іранічныя адносіны Я. Коласа да афіцыйнай царквы, аднак нельга атаясамліваць духоўную сутнасць рэлігіі з інстытутам царквы. І зварот да Бога, і само слова Бог нярэдка сустракаюцца на старонках яго твораў, асабліва ў першай рэдакцыі паэмы «Сымон-музыка»...

Завяршыўся сімпозіум на трагічна высокай ноце — Г. Колас дзяліўся здабыткамі сваёй працы ў архівах. Яго пранікілівы, артыстычна выразны голас узрушваў, гучаў як прысуд: «Купалу - паэта забілі ў 1930—31, пазней ад яго застаўся функцыянер». Слухаеш цытаты з данясенняў Чорнага на Купалу, Коласа, Паўліны Мядзёлкі на Купалу і не даеш веры, цешыш сябе спадзяваннем: гэта па прымусе, гэта пад дыктоўку...

Так, робіцца страшна, але — слухайце, нашы госці, нашы сябры, слухайце і пастарайцеся зразумець. НКУС зламаў ці не ўсіх... «Не ўсіх, —пярэчыць Георгій Колас.— Быў адзін, каго не змаглі зламаць — Лявон Случанін!» Адзін.. Дык ці важна пасля гэтага ведаць, выкінуўся Купала ў пралёт, альбо яго скінулі?!

Я згодны з Г. Коласам— мы мусім ведаць, што адбывалася з нашымі пісьменнікамі бо іх духоўная драма, трагедыя іх лёсу нябачнай чарнобыльскай смерцю асела і ў нашых душах. Нібы пасля вар'яцкага, страшнага сну вяртаемся мы да памяці, у цяжкіх росшуках знаходзім не проста факты сваёй гісторыі, мы знаходзім сябе, мы знаходзім сяброў. Нельга не паверыць у шчырасць слоў нямецкага літаратуразнаўцы Н. Брэдэрлоу на завяршэнне сімпозіума, у яе абяцанні папулярызаваць беларускую літаратуру ў сябе дома, у Германіі, у яе абяцанне перакладаць на нямецкую мову лепшыя творы нашых пісьменнікаў.

І якімі б ні былі матывы, акалічнасці, прычыны іх прыезду з усяго свету ў школу беларускай мовы, несумненна адно — нас зблізіла і паяднала ідэя Адраджэння!

**Павел НАВОЙЧЫК, выкладчык БДУ, кафедра беларускай мовы і літаратуры прыродазнаўчых факультэтаў.**

## Віншуем!

Учора споўнілася 70 гадоў Уладзіміру **Калесніку.** Крытыку, літаратуразнаўцу, даследчыку. Аднаму з тых нямногіх, хто і ў застойны час годна сеяў «вечнае, добрае, разумнае» на нацыянальнай глебе.

Віншуем Уладзіміра Андрэевіча з юбілеем, зычым яму моцнага здароўя, далейшых творчых поспехаў.



# «Залежнасць ад вялікага свету паэзіі...»

«Зразумець душу чалавека нельга інакш, як палюбіць гэтага чалавека...».

У гэтых словах з ліста Міхася Васілька, якімі некалі Уладзімір Калеснік пачынаў свой артыкул пра гэтага далёка не самага знакамітага, а для іншага сучаснага «адраджэнца», для якога ўжо і сам Купала застаўся дзесьці там «ззаду», проста не надта ўжо цікавага паэта, мне бачыцца разгадка такой неардынарнай, такой вось ужо сапраўды адраджэнскай чалавечай і творчай асобы Уладзіміра Андрэевіча, той шматгадовай няспыннай, такой няпростай і нялёгкай, такой самаахвярнай, самаадданай аж да самазабыцця працы гэтага чалавека, шлях якога, кажучы словамі Уладзіміра Караткевіча, «не ружамі быў усыпаны і які на гэтым шляху не страціў аніводнай з высокіх чалавечых якасцей».

Словы гэтыя сказаны Караткевічам дваццаць гадоў таму назад да пяцідзесяцігоддзя Уладзіміра Андрэевіча, але і сёння, у дні ўжо куды больш сталага ягонага юбілею, і я, каму апошнім часам пашчасціла бліжэй спазнаць яго як чалавека, ад шчырага сэрца магу паўтарыць словы таго ж незабыўнага Уладзіміра Сямёнавіча: «Уладзімір Калеснік—адзін з лепшых людзей, з якімі даводзілася сустракацца».

Што найбольш некалі ўразіла пры першым асабістым знаёмстве ў хаце Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, як некалі раней пры першай сустрэчы з Верай Сямёнаўнай Палтаран, дык гэта тое, што я адразу адчуў — табе рады, ты цікавы і ў нечым проста патрэбны гэтаму чалавеку. А потым лёс звёў нас ужо ў камісіі па спадчыне Фёдара Міхайлавіча, гэтага аднаго з нястомных рухавікоў нашага духоўнага нацыянальнага жыцця, што адкрыла яшчэ лепш многае ў душы Уладзіміра Андрэевіча, якая спазнала столькі страт і, асмельваюся гэта сказаць, расчараванняў, але не спустошылася, не стамілася любіць людзей, свой народ.

Прачытана і перачытана, бадай, усё з апублікаванага гэтым нястомным працаўніком. Вельмі ўражваюць сваёй сумленнасцю і бескампраміснасцю ў адносінах да сваіх пэўных «пралікаў» і ўсё той жа глыбокай душэўнай прыстойнасцю і духоўнай вышынёй не такія ўжо частыя публікацыі апошніх няпростых гадоў, такія скажам, як «Ачышчэнне памяці» («Полымя», 1989, № 9), «Бард адраджэння» (да 90-годдзя з дня нараджэння У. Жылкі), «Краса і воля» (паводле перапіскі У. Жылкі з А. Луцкевічам) на старонках «ЛіМа» ў 1990—1991 гадах.

**Усё гэта, думаецца, дае мне права зноў сказаць тое, што я гаварыў да яго шасцідзесяцігоддзя, калі мы асабіста былі яшчэ незнаёмыя: «З гэтым чалавекам адчуваеш сябе ва ўсім — і ў малым, і ў вялікім—неяк больш надзейна». Бо ў ім захавалася ўсё тое, без чаго немажліва, асабліва ў нашы сённяшнія горкія дні ўсеагульнага адчужэння, нармальная атмасфера ў літаратурным жыцці. Не прытупілася ўсё тая ж выключная сумленнасць ва ўсім і той сапраўдны, нязмушаны высокі патрыятызм, засведчаны яшчэ ў гады вайны ды і ўсяго далейшага жыцця, шчырая адданасць свайму народу, яго рэальнай няпростай гісторыі, вялікая пашана да зусім не беднай, вартай самай высокай гаворкі пры самай сумленнай ацэнцы нашае культуры, літаратуры.**

Эрудыцыя гэтага нястомнага даследчыка свайго пэўнага пласта нашае культуры проста ашаламляе. Аж не верыцца, што яго першыя публікацыі некалькі дзесяткаў гадоў таму назад былі абвінавачаны — да таго ж чалавекам не меншай эрудыцыі і выключнай чуйнасці да слова—не менш, чым у антыгістарызме ягоных «гістарычных экскурсаў», у тым, што ў яго ўсяго толькі на першы погляд «як бы прысутнічае навуковы падыход».

Ну што ж, і сам наш юбіляр прызнаваўся некалі, што ён «пакутліва змагаўся супраць спакуслівай лёгкай схаластыкі і схематызму», ён не збаяўся і ў нашы дні «з прыкрасцю» прызнацца, што ў яго (далёка не самай горшай і ў яго творчым набытку і ўвогуле ў нашым літаратуразнаўстве) кнізе «Ветразі Адысея» Антон Луцкевіч, маштаб асобы якога стаў толькі цяпер нам вядо-

# «ЦІ ТАК ПІШУ Я?», альбо Пахвала жанру

Гумар стаў заняткам непрэстыжным, як бы не вартым высокага звання літаратара. Час ад часу ў газеты прыходзяць па-майстэрску адшліфаваныя, але псеўданімамі падпісаныя сатырычныя творы. Дасціпнікі-злаcліўцы, якія шчодрай жменяй рассыпаюць вакол эпіграмы ды мянушкі на калег і калежанак па пяру, тым больш не прагнуць шырокай вядомасці: задавальняюцца кулуарнай славай. Адзін «Вожык» мужна супроцьстаіць згубнаму працэсу карозіі гумару, нястомна прыцягваючы новых аўтараў ды стымулюючы іх маральна і матэрыяльна. Ёсць сур'ёзнае апасенне, што беларускі гумар, трапіўшы на задворкі грамадскай свядомасці, звядзецца гэтак жа паспяхова... ну, як, скажам, беларуская драматургія. Ды калі ў апошняй ёсць на тое «аб'ектыўныя прычыны» з імёнамі і прозвішчамі, то бедны гумар і вінаватых не знойдзе. Застанецца толькі прыдумаць смешную эпітафію на ўласную магільную пліту.

Вось на такой сумнай ноце пачынаю я нататкі пра кнігу літаратурных пародый Георгія Юрчанкі «Негабляваная пегасня» — кнігу ва ўсіх адносінах не новую. Для чытачоў — бо выдадзена тры гады таму, для аўтара — бо з'яўляецца выбраным з «усяго лепшага, што створана парадыстам». Жанр пародый зацікавіў мяне вось чаму: па сутнасці, гэта адзіны від крытыкі, які пісьменнікі яшчэ пераносяць. Крытыка ж непасрэдная — не каментатарства і не апалагетыка — даўно выклікае ў іх, нават у самых, здавалася б, памяркоўных, трывалую алергію. Таму і пішуць у нас пра сталых і прызнаных зусім як пра нябожчыкаў — ці добра, ці нічога.

Нават Г. Юрчанка не адступіў ад гэтага няпісанага правіла. «Ахвяр» для сваіх пародыйных твораў ён выбірае згодна табелю аб рангах. Калі і трапіўся хто з мэтраў, то па той простай прычыне, што тады ён быў яшчэ малады. Паколькі творы не датаваны, то правільнасць сваёй высновы я праверыць, на жаль, не магу. Дый хай яна застаецца, як кажуць, на маім сумленні.

А зараз давайце паглядзім, як вядомы пародыст высмейвае тыя ці іншыя асаблівасці манеры і стылю паэтаў і празаікаў. Івана Пташнікава я пазнала б і ў тым выпадку, калі б не было пазначана яго прозвішча. У пародыі—тая ж гушчыня мясцовага—лагойскага — слова, тая ж стыхія апісальнасці, самакаштоўная сама па сабе і выразна «пташнікаўская». Калі ж у нечых творах няма такой адметнасці, Г. Юрчанка скарыстоўвае сюжэтныя павароты, улюбёныя слоўкі і выразы і многае іншае.

А паглядзіце, як хораша «прачытваецца» рамантычна - ўзнёслы стыль Івана Грамовіча: «Так, воблакі! А яшчэ авечкі. Воблакі і авечкі. Ці знайсці

# ПЕРАЖЫВАЦЬ ЗА КУЛЬТУРУ— ЗНАЧЫЦЬ ПЕРАЖЫВАЦЬ ЗА СВОЙ НАРОД

**Іспанскія згадкі**

Пасля кожнай замежнай паездкі застаецца шмат успамінаў і пераважна прыемных. Артысты аркестра нашага роднага тэатра оперы і балета, на жаль, не могуць пахваліцца вялікай колькасцю замежных гастроляў, таму Іспанія для кожнага з іх сталася адкрыццём. Нягледзячы на тое, што графік нашай гастрольнай вандроўкі быў празмерна насычаны працай, уражанняў назапасілася багата. Але ж неразважныя «охі» ды «ахі» пра закардонныя вітрыны, чысціню вуліц, утульнасць гасцініц толькі лішні раз ціснуць на балючы мазоль, нацёрты нашым нязграбным купонна-талонным жыццём. З другога боку, паспрабуй разважаць чыста пра мастацтва, музыку, калі сам на сцэне кожнай сваёй клетачкай адчуваеш узаемасувязь эканамічнага ўзроўню развіцця грамадства і яго духоўных запатрабаванняў, адчуваеш розніцу паміж «там» і «тут»...

Нашы гастролі адбываліся дзякуючы фірме «Соварт», якая супрацоўнічае з Домам Пушкіна ў Мадрыдзе, а таксама — Таварыству дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Першы канцэрт (а яны ладзіліся ў рамках музычнага цыкла «Лепшыя аркестры свету», арганізаванага Політэхнічным універсітэтам Мадрыда) праходзіў у дзень прыезду ў Sala Sinfonica de Auditorio National de Musica ў Мадрыдзе. Перад невялікай рэпетыцыяй было 5—10 хвілін «на акліматызацыю» — пастаяць і абвесці позіркам вялікія прасторы гэтага архітэктурнага сучаснага цуду. Акустыка аказалася найлепшым памочнікам для поўнага гучання аркестра: пасля «ямы» роднага опернага ігралася лёгка: думаю, не памылюся, калі скажу за ўсіх — кожны атрымліваў сапраўднае задавальненне. Не да твару саміх сябе нахвальваць, але ж увачавідкі адбывалася цудоўнае пераўтварэнне: і адказнасць, і творчае хваляванне, і чароўная атмасфера ў зале, — усё лепшым чынам адбілася на выкананні рэпертуару — фрагментаў з опер і балетаў П. Чайкоўскага, арый з опер Д. Вердзі (саліравалі нашы артысты Наталля Кастэнка, Наталля Руднева, Эдуард Пелагейчанка, Аркадзь Саўчанка).

Для хвалявання былі й асаблівыя прычыны: перад намі, а 20-й гадзіне, меўся канцэрт Нацыянальнага сімфанічнага аркестра Францыі, а наш пачынаўся ў 22.30. Неверагодна, але нас сустрэла поўная зала і доўгая бурная хваля апладысментаў! Іграць без самааддачы ў такой атмасферы было немагчыма. Тым больш, што зала зроблена ў форме амфітэатра — слухачы размешчаны не толькі ў партэры і бельэтажы, але і вакол аркестра, нават самыя аддаленыя звычайна ад сцэны групы якога аказваюцца зусім блізка да публікі, якая вельмі тонка рэагуе на музыку.

З залы адчуваўся подых шчырасці, дабрыні, людской душэўнасці. Потым, калі шмат разоў прыгадваў гэтае прыемнае для кожнага артыста адчуванне, то чамусь паралельна ўспаміналіся і ўсе іншыя адметнасці іспанскай зямлі, жыццё вуліц, і магазіны, і самі людзі. А даведаліся мы пра тамтэйшае жыццё і ад нашай праважатай, якую мы звалі Жэняй. Гэта простая руская жанчына ўжо некалькі год жыве і працуе ў Мадрыдзе (вядзе курсы рускай мовы). Яе цікавыя, без рэтушы расказы зрабілі наш першы пераезд Мадрыд — Ля-Карунья (больш за 600 км!) не толькі прыемным, але і карысным у плане знаёмства з гісторыяй, традыцыямі Іспаніі, некаторымі нацыянальнымі праблемамі.

Другі канцэрт — у горадзе Ля-Карунья, што на поўначы Іспаніі, на ўзбярэжжы Атлантычнага акіяна. Доўгі пераезд, гасцініца, кароткі адпачынак, акустычная рэпетыцыя і канцэрт — здавалася, кожны хутка звыкся з такім напружаным раскладам. Можна толькі здагадвацца, як усе, на чале з нашым галоўным дырыжорам А. Анісімавым, нерваваліся. А тут яшчэ на вуліцах Ля-Каруны рыхтаваўся ўсяночны карнавал: перакрывалі вулічны рух, пачалі з'яўляцца купкі людзей у масках, усялякіх самапрыдуманых фантастычных вопратках, — два вялізныя нашы аўтобусы ледзь праціскаліся па нешырокіх вулках надзвычай сімпатычнага гарадка. Да канцэрта заставалася вельмі мала часу, а нашы нястомныя шаферы, нават пры дапамозе рацыі ўжо звязаўшыся з атэлем, ніяк не маглі прабіцца к берагу акіяна, дзе знаходзіцца атэль. Але ж у час вулічных «манёўраў», чакання ў «пробках» хоць крыху мы паглядзелі горад. Мала таго: давялося палюбавацца на цуд паўночнай Іспаніі — квітнеючыя камеліі!

Адметнасцю другога канцэрта было для нас тое, што ён планаваўся як сольнае выступленне нашага аркестра (спевакі засталіся ў Мадрыдзе), і праграма была падрыхтавана іншая. Вядома, гэта накладала вялікую адказнасць на кожнага артыста аркестра. Не сакрэт, што оперна-балетная спецыфіка нашага калектыву — не лепшы памочнік, калі аркестр з тэатральнай ямы ўзыходзіць на залітую святлом сцэну. Але ж, відаць, тут і мацнее нязгода кожнага музыканта з тым «афіцыйным» статусам, які часта намагаюцца прыкласці да нас міністэрскія тэарэтыкі, адводзячы сімфаніч-

**НАБАЛЕЛАЕ**

**ТЭМА гэтага артыкула, можна сказаць, ужо зрабілася пагалоскай: лёс традыцыйнай культуры беларусаў. Але мушу зноў звярнуцца да яе, бо праблема гэтая так даўно стаіць перад нашай культурай, што ў рэшце рэшт павінна ўзнікнуць пытанне: чаму пры ўсіх, здавалася б, велізарных намаганнях культурнай грамадскасці нашай рэспублікі «адрадзіць», «аднавіць», «зберагчы» асноватворны пласт нацыянальнай культуры ён перажывае новыя страты, а то і проста гіне! Пытанне далёка не рытарычнае, бо адказ на яго мае, прамаўляючы нядаўна яшчэ модным рускім, «судьбоносное» значэнне для беларускай культурнай спадчыны ўвогуле.**

# «НАРОДНЫ ФАЛЬКЛОР», або Калі ж пасохнуць грушы на вярбе?

Давайце дадзім волю фантазіі і ўявім сабе на хвілінку, што кожны з нас, хто захоча, можа пайсці ў Алмазны фонд і ўзяць напракат карону рускіх цароў. Што застанецца ад гэтага шэдэўра ювелірнага мастацтва праз нейкі час — гэта мы можам уявіць сабе і без усялякай фантазіі. І ўвогуле такая думка — з шэрагу абсурдных, гэта разумее кожны. Абсурднай падалася б і прапанова пайсці лячыць зубы да артыста аперэты або папрасіць вадзіцеля трамвая ўзняць свой транспарт у паветра. Што ні кажы, а многія з нас яшчэ са школьнай лавы носяць у сабе вобразы «пирожника» і «сапожника», кожны з якіх павінен займацца сваёй справай, а далейшая адукацыя і жыццёвы вопыт умацоўваюць у нас разуменне таго, што ў жыцці ўвогуле, а ў прыватнасці і ў культуры, існуе яшчэ й іерархія каштоўнасцей.

Але перш чым развіваць далей думку пра каштоўнасці нацыянальнай спадчыны, прывяду яшчэ адзін прыклад — з блізкай мне галіны музычнай культуры. Ідзе заключны канцэрт лаўрэатаў фальклорнага фестывалю. Раз-пораз на сцэне з'яўляюцца пажылыя ці старыя (бывае, гадоў за 70) жанчыны, апранутыя ў аднолькавыя так званыя народныя касцюмы, з тварамі, загрымiраванымі «пад артыстаў», г. зн. з нарумяненымі шчокамі, нафарбаванымі вуснамі і брывамі, прычым нафарбаванымі груба — увесь «макіяж» відаць. Спяваюць (і спяваюць неяк вельмі строга, з застыглымі тварамі) часцей за ўсё лірычную песню пра нешчаслівае каханне або мужа-п'яніцу, спяваюць доўга (бо песні гэтыя і сапраўды доўгія), так што слухачы і гледачы пачынаюць круціцца ў сваіх крэслах, губляючы цікавасць да таго, што адбываецца на сцэне. Гэтых бабуль «змятае» са сцэны які-небудзь зухаваты маладзёжны калектыў, і ад іх выступлення ў гледача нярэдка застаецца пачуццё нейкай разгубленасці, няёмкасці, адчуванне, што адбылося «нешта не так» і «нешта не тое».

А пасля канцэрта адны гледачы са шчырым здзіўленнем пытаюцца: «І гэта тыя самыя шэдэўры народнай творчасці, тыя «дыяменты» і «пярліны», пра якія ўвесь час гаворыць прапаганда?». Другія са злосцю гавораць: «Навалаклі гэтых баб, канцэрт толькі сапсавалі!» Незадаволеныя і арганізатары: «Няроўны канцэрт атрымаўся, колькі ні працаваў рэжысёр з вясковымі калектывамі, а яны ўсё адно на сцэне, як нежывыя».

Можа падацца дзіўным, але ўсе гэтыя людзі маюць рацыю, бо ўсе яны, кожны па-свойму, інтуітыўна адчулі адно і тое ж: у такім выглядзе фальклорнае мастацтва на сцэне паказваць не трэба. Але вы памыліліся б, паважаны чытач, калі б падумалі, што канцэрты чарговага фальклорнага фестывалю будуць іншымі. На жаль, не. І ўвогуле, калі б вы пабывалі на чатырох-пяці падобных канцэртах, вы маглі б у каторы раз упэўніцца, што вясковы фальклор — гэта нешта нехлямяжнае, смешнае, нешта такое, да чаго можна ставіцца іранічна, кпліва, нават пагардліва, а разважанні пра сусветныя мастацкія і маральныя каштоўнасці нацыянальнай спадчыны трэба паўз вуха пускаць, як звычайную невядома каму патрэбную балбатню. І заўважце — да такіх сумных высноў вас можа прывесці дзейнасць менавіта тых людзей, якія па роду сваіх заняткаў мусяць абуджаць у вас зусім супрацьлеглыя пачуцці і перакананні (маю на ўвазе вялікую колькасць работнікаў культуры, якія так ці інакш прычыняюцца да культуры традыцыйнай).

Дык што, зноў можаце спытаць вы, гэтыя спецыялісты не ведаюць, што робяць? Не бачаць разбуральных для традыцыйнай культуры вынікаў сваёй дзейнасці? А, можа, свядома дыскрэдытуюць і знішчаюць яе? Абвостраная палемічнасць гэтых пытанняў можа раззлаваць многіх, хто шчыра лічыць сябе абаронцам нацыянальнай культурнай спадчыны, але давайце паспрабуем усё ж яшчэ раз разабрацца ў тым, што адбываецца.

СУЧАСНАЯ культурная сітуацыя ў Беларусі адметная тым, што на нашай зямлі адначасова існуюць тры формы мастацтва: прафесійнае, аматарскае (мастацкая самадзейнасць) і традыцыйнае (яго яшчэ называюць аўтэнтычным). Кожная з гэтых форм жыве па сваіх законах, і калі мы хочам, каб усе яны існавалі і развіваліся, мы павінны ведаць гэтыя законы і — галоўнае — спрыяць умовам, пры якіх яны, законы, дзейнічалі б. У сферах прафесійнага і самадзейнага мастацтва яно так і адбываецца. Яны знаходзяцца «пад крылом» дзяржавы і кіруюцца афіцыйнымі культурнымі ўстановамі. Добра ці дрэнна — гэта іншае пытанне, але інакш яны не могуць выжыць, ды й дзяржаўная культурная палітыка, сістэма адукацыі і прапаганды адладжаныя такім чынам, што ў асноўным спрыяюць (нават у цяперашні вельмі складаны час) развіццю гэтых форм мастацтва.

Што ж тычыцца мастацтва традыцыйнага, то тут становішча зусім іншае. Законы яго існавання выяўляюцца ў трох назоўніках: самаарганізацыя, самарэгуляцыя, самакіраванне. Гэта значыць, што традыцыйная культура выступае як **аўтаномная** падсістэма ў межах больш шырокай сістэмы сучаснай культуры ўвогуле. Пры гэтым ёй уласцівыя, з аднаго боку, спантаннасць (самаадвольнасць), з другога — здольнасць планаваць, рэгуляваць і актыўна ажыццяўляць сваю дзейнасць **без пастаяннага кіраўніцтва звонку.** Класічная высокамастацкая традыцыйная культура склалася ў сялянскай абшчыне і стагоддзямі захоўвалася ў ёй як натуральная, жыццёва неабходная форма кантакту людзей з прыродай і паміж сабой, як адлюстраванне грамадска-маральнага стану сельскай абшчыны, як дзейсны сродак для адчування чалавекам гармоніі жыцця і псіхалагічнага камфорту, як рэгулятар яго паводзін, усёй сферы жыццядзейнасці. Такой яна ў асноўных сваіх рысах і працягвае існаваць у сялянскім асяроддзі на Беларусі. Цудадзейная жывучасць нашай нацыянальнай традыцыйнай спадчыны — прадмет «белай» зайздрасці ўсяго дасведчанага славянскага свету. І якім жа дзікунствам падаецца яму такое становішча, калі спадчына гэтая на нашых вачах гіне, а мы не толькі не ўратоўваем яе, але і садзейнічаем такому злачынству! Праўда, сказаўшы слова «мы», я, відаць, зрабіла залішняе абагульненне, бо ў адносінах да традыцыйнай культуры рэальна існуюць па меншай меры дзве і прытым дыяметральна супрацьлеглыя пазіцыі: прафесійная і дылетанцкая. З'ява гэтая сама па сабе была б увогуле нармальная (такі падзел існуе ў многіх галінах чалавечай дзейнасці), калі б на чале справы стаялі прафесіяналы, а дылетанты, як і належыць ім, займаліся аматарствам. Але парадаксальнасць і трагічнасць сітуацыі з традыцыйнай творчасцю ў тым і заключаецца, што яна амаль цалкам знаходзіцца пад уладай дылетантаў!

Першае і галоўнае, што ўчыняюць дылетанты, бо не разумеюць і не прымаюць законы існавання традыцыйнай культуры, — яны ігнаруюць яе самасць (самаарганізацыю, самарэгуляцыю, самакіраванне). Найвялікшую шкоду прыносяць тут дылетанты з афіцыйных устаноў культуры. Бачачы сэнс сваёй дзейнасці ў татальнай арганізацыі ўсіх творчых працэсаў і ў такім жа татальным кіраўніцтве імі, яны механічна пераносяць метады свайго кіравання і на традыцыйную культуру. Упарта ідучы ў чужую парафію са сваім звычаем, некампетэнтныя кіраўнікі, хочуць яны таго ці не, аказваюцца тут у ролі разбуральнікаў, вынішчальнікаў, згубцаў.

Узяць хаця б галіну традыцыйнай песнятворчасці беларусаў. Яе асаблівасцю з'яўляецца надзвычайнае багацце, развітасць і разгалінаванасць пласта старажытных песень — каляндарна-земляробчых і сямейна-абрадавых. У мностве выпадкаў яны неаддзельныя ад абрадаў, у час якіх і выконваюцца; яны маюць яскравыя рэгіянальныя адрозненні, нарэшце яны проста прыгожыя. Мы, беларусы, пакуль яшчэ маем такое мастацтва, якое ўжо страцілі многія іншыя народы свету, мы таксама маем унікальную гісторыка-культурную сітуацыю, калі сівая мінуўшчына жывымі вачамі глядзіць у твар чалавека канца XX стагоддзя. Ганарыцца б гэтым! Але ў сваім нацыянальным бяспамяцтве, культурным нігілізме быццам бы і не бачым духоўных каштоўнасцей, якія належаць нам жа, адмаўляем у праве самастойнага існавання той культуры, якая магла б зрабіць нам славу.

Вернемся да таго канцэрта лаўрэатаў фальклорнага фестывалю, пра які гаворка ішла ў пачатку артыкула. У канцэртах такога роду, як у кроплі вады, адбіваюцца тыя разбуральныя працэсы, супраць якіх пратэстуюць прафесіяналы. Механізм гэтага разбурэння такі, што аўтэнтычны фальклор вырываецца з яго натуральнага асяроддзя і пераносіцца на сцэну, прычым тут, на сцэне, шматлікія рэжысёры і арганізатары ставяцца да яго з тымі ж патрабаваннямі, што і да мастацкай самадзейнасці, г. зн. як да мастацтва сцэнічнага. Але аўтэнтычны фальклор у корані непрыдатны да сцэны, яго ася-

наму аркестру ў оперным тэатры ці не дапаможную ролю... З нечыяй лёгкай рукі і, відаць, цяжкай галавы, апошнім часам оперны аркестр пачалі адносіць да разраду гэткіх калектываў-тапёраў. Няхай сабе і так... Але ж тут нам была адведзена не роля музыкантаў для суправаджэння танцаў на балі, а прадастаўлена зноў жа акустычна гожая і ўтульная вялікая канцэртная зала (поўная назва такая Palacio de Congresos-Auditorio-la Coruna). Праграма цалкам з твораў рускіх кампазітараў: М. Глінка, А. Барадзін, М. Рымскі-Корсакаў, П. Чайкоўскі. Музыка уверцюры да оперы «Руслан і Людміла», віхром уварваўшыся ў залу, імгненна напоўніла кожны куточак нечым родным і блізкім кожнаму з нас духам. Усё магло б паказацца звычайным; толькі нібы народжаны першым выбухам аркестравага tutti тэмпераментны запал дырыжора, эстэтычная дасканаласць яго жэстаў упэўнена павяла аркестравы карабель па акіяне Музыкі. І ў гэтыя хвіліны я меў магчымасць назіраць не толькі за сваімі калегамі-музыкантамі, але і за залай: зацікаўленасць на мяжы напружанай увагі — так я ахарактарызаваў бы атмасферу. І яшчэ — немагчымасць вылучыць хаця б аднаго-двух у зале, занятых нейкай пабочнай справай... Было адчуванне, нібы людзі ўпершыню пачулі цудоўную музыку, нібы адкрывалі для сябе новы музычны цуд... Шквал апладысментаў хутчэй нагадваў рэакцыю стадыёна. Ніякай розніцы з Мадрыдам!

Канцэрт не меў вядучых, ішоў без аб'явак, слухачы арыентаваліся па праграмках, таму калі некалькі нумароў было пераастаўлена, публіка крыху збянтэжылася. А наогул, іспанскія слухачы не толькі добра арыентуюцца без вядучых, але і патрабавальна адносяцца да выканання музыкі: па рэакцыі залы заўсёды можна вызначыць, што больш спадабалася, а што крыху менш. Было адчувальна, што некаторыя нумары з балетных сюіт крышку расхалоджвалі ўвагу публікі, уносілі зацягнутасць у дынаміку выступлення...

Назаўтра зноў пераезд (амаль цэлы дзень) у Мадрыд, кароткая ноч для адпачынку (і знаёмства з начной сталіцай). Раніцай — пераезд на поўдзень, у горад Алікантэ, што на ўзбярэжжы Міжземнага мора. Высокія пальмы, цёплы ветрык, хараство і дагледжанасць. Што казаць горад-курорт, дзе адпачываюць людзі... Тут наш канцэрт (зноў з салістамі беларускай оперы) адбыўся ў зале «Teatro Principal», сцэна якога была спецыяльна падрыхтавана для выступлення нашага калектыву. Зноў мы сустрэліся са шчодрай добразычлівай публікай. Працавалі з задавальненнем, нягледзячы на стомленасць. Пасля канцэрта — лёгкі кактэйль (па нашаму — вячэра, але без спіртнога), а пад раніцу ўжо самалёт на Маскву, адтуль поездам у Мінск...

Вядома, можна было б шмат чаго ўспомніць і расказаць чытачам пра выступленні аркестра ДАВТа Беларусі ў Іспаніі. Але з намі была рэжысёр БТ В. Скварцова, сёе-тое ўдалося зняць і паказаць у эфіры — гэта лепш за ўсякія словы. Былі, вядома, і водгукі ў іспанскай прэсе на нашы канцэрты, з якімі я знаёмы паводле самых першых, недасканалых перакладаў. Тамтэйшыя крытыкі не прапускаюць ніводнай дробязі (напрыклад, маленькую затрымку пачатку канцэрта ў Ля-Каруньі) і наогул рэцэнзуюць канцэрты зусім не «па-нашаму»...

Я ж у сваіх нататках меў на мэце пазнаёміць чытачоў з замежнай «прэм'ерай» аркестра, якая, на мой погляд, прайшла выдатна. Паверылася, што пры пэўных паляпшэннях умоў працы артыстаў аркестра Беларусь можа, «не ўтульваючы галаву ў плечы», разлічваць на ўдзел нашых музыкантаў у самых высокіх па ўзроўні міжнародных фестывалях, конкурсах, заяўляць гастролі нашага калектыву за мяжой.

Вядома, што ў тэатры наогул і ў самім аркестры ДАВТа вельмі шмат праблем, якія нельга вырашыць асобна ад праблем глабальных, эканамічных і інш. Паездка ў Іспанію вызначыла як праблемы, іх якасную структуру, так і рэзервы творчага патэнцыялу старэйшага ў рэспубліцы аркестра (не будзем казаць пра ўвесь тэатр, у якім зацягваюцца рэформенныя працэсы). Што найперш кінулася ў вочы ў Іспаніі? Што мы не дарма прыехалі, што мы патрэбныя тамтэйшым сытым, адзетым людзям. Хіба можа «там» каму-небудзь прыйсці ў галаву думка, што музыкант, аддаўшы столькі гадоў дзяцінства, юнацтва вучобе, а астатнюю частку жыцця — працы ў аркестры, задарма есць хлеб? Што ён апошні ва ўсіх чэргах, ва ўсіх спісах — на павышэнне зарплаты, на жыллё, на аўтамабіль? Калі ўжо пачнуць разумець і ў нас, што «прадукт культуры» — гэта не столькі сам Іваноў-Пятроў, не сам артыст, а тое, што ён нясе людзям, ягоная справа! І хто ж возьмецца ў рэшце рэшт лячыць культуру? Той, хто паставіў яе ў канец чаргі?

Перажываць за культуру — значыць перажываць за народ свой, і зусім гэта не менш важна, чым перажываць за эканоміку! Канечне, замежныя паездкі нам сёння каштуюць вельмі дорага, валюты бракуе і г. д. Але ж вазьму на сябе смеласць казаць, што і яны акупляюцца і вяртаюць самае каштоўнае культуры — уласную годнасць людзям мастацтва, веру ў творчыя сілы, дапамагаюць змагацца з песімізмам і адраджаць тое няўлоўнае, што загублена ў розныя часы нашай гісторыі.

**Пятро ДУДАРЭНКА,**
**артыст аркестра ДАВТа Беларусі.**

роддзе — поле, лес, бераг ракі або возера, вясковая вуліца ці хата... Тут і толькі тут жыве ён паўнакроўным натуральным жыццём, тут раскрываецца яго арыгінальнасць, непаўторнасць, самабытнасць. Якая ж, скажыце, калі ласка, патрэба — бясконца выстаўляць яго на сцэну, дзе ён губляе сябе? Навошта свядома збядняць скарб, дэзарыентаваць гледачоў? Да таго ж такога роду дзейнасцю займаюцца ўсе, хто толькі мае ахвоту.

Словам, царскую карону цягае хто хоча, але амаль ніхто быццам бы не заўважае абсурднасці такога становішча. Наадварот: усе гэтыя шматлікія конкурсы, фестывалі, канцэрты, агляды дружна ідуць пад сцягамі «адраджэння» і «развіцця» народнай спадчыны. Што гэта? Глабальная хлусня ці такое ж глабальнае невуцтва? Няўжо арганізатары падобных мерапрыемстваў і сапраўды не разумеюць, што копія ніколі не заменіць арыгінала, і колькі б ні арганізоўвалася прафесійных і самадзейных калектываў, што працуюць на фальклорным матэрыяле (а па-просту развучваюць і выконваюць народныя песні), ад гэтага фальклор аўтэнтычны не адродзіцца? Яго сапраўднае аднаўленне павінна ісці іншымі шляхамі, і пра іх ужо доўгі час даводзяць прафесіяналы.

Задачай першаступеннай важнасці тут павінна зрабіцца **дзяржаўная ахова** аўтэнтычных форм народнай культуры. Трэба, урэшце, усвядоміць, што шмат гадоў з «народнай крыніцы» толькі «чэрпалі», «бралі» і «пілі», да яе толькі «прыпадалі», ёю толькі «карысталіся». Непрадбачлівыя даследчыкі і сродкі масавай інфармацыі зрабілі шмат, каб замацаваць у грамадскай свядомасці заганны тэзіс пра «невычэрпнасць» скарбніцы народнага мастацтва». Але нічога невычэрпнага на зямлі няма: безгаспадарчае выкарыстанне традыцыйнай спадчыны прывяло яе на мяжу знішчэння. Даўно наспеў час для сур'ёзнай і прафесійнай працы, якая была б скіравана на пераакцэнтоўку свядомасці шырокага кола грамадскасці са спажывецкіх і забаўляльных установак на ахову фальклорнай першакрыніцы, на стварэнне такіх умоў яе жыцця, пры якіх яна магла б натуральна самааднаўляцца.

Дзейсная дапамога традыцыйнай культуры ляжыць на шляху яе **стымулявання.** Асноўнай работай культасветнікаў на месцах павінна зрабіцца не «падрыхтоўка» аўтэнтычных выканаўцаў для выступлення на чарговым аглядзе мастацкай самадзейнасці, а падтрымка фальклорнай ініцыятывы, якая зыходзіць ад саміх носьбітаў традыцыі. Пры гэтым у першую чаргу трэба заахвочваць натуральныя для сапраўднага народнага мастацтва формы спеваў, гульняў, танцаў, інструментальнай музыкі на адкрытым паветры, адраджаць абрады гадавога і сямейнага цыклаў — каляды і шчадраванне; масленіцу, гуканне вясны, валачобны і юраўскі абрады, святы на сёмуху, русалле, абрад куста; купалле, зажынкі, жніво, дажынкі; вяселле, хрэсьбіны. Прычым рабіць гэта ў адпаведнасці не з агульнымі для ўсёй Беларусі сцэнарыямі, распрацаванымі ў сістэме культасветработы, а з апорай на жывую або рэканструяваную мясцовую традыцыю. Не магу тут не ўспомніць зробленыя па адным сцэнарыі тэлевізійныя «Вячоркі». Проста дзіва, як аўтары ўмудраліся раўнаваць пад адзін грабянец такія, здавалася б, розныя гурты з розных рэгіёнаў, колькі штучнасці было ў рэпліках нязменных «вядучых» і ў сцэнічных паводзінах саміх выканаўцаў. Пра які гонар і годнасць аўтэнтычнага фальклору тут можна гаварыць, калі хваля лёгкаважкай «весялосці» і забаўляльнасці дрэннага густу ўзнімалася аж да «гульні ў дурня». І гэта сродкі масавай інфармацыі выдаюць за адраджэнне фальклору?

Яшчэ адна праблема — пераемнасць традыцый. Асаблівую ўвагу тут трэба звярнуць на стварэнне ў вёсках пэўных умоў, пры якіх натуральным для фальклору вусным шляхам ішла б перадача песенных, інструментальных, танцавальных і іншых традыцый ад старэйшага да маладзейшага пакаленняў.

Работа гэта цяжкая, працаёмкая, і доўгатэрміновая. Трэба разумець, што значныя пласты традыцыйнай культуры ў выніку памылак культурнай палітыкі мінулых дзесяцігоддзяў усё яшчэ мусяць быць у скрытым стане, і давядзецца прыкласці багата намаганняў, каб вызваліць іх да адкрытага жыцця і ўрэшце вярнуць традыцыйнай культуры той грамадскі статус, які адпавядае яе значнасці і як гістарычнага феномена, і як з'явы сучаснага культурнага жыцця.

**ЦЯПЕР** колькі слоў аб прапагандзе. Яна таксама павінна павярнуцца ў бок прафесіяналізму. Неабходна дакладна ўсведамляць, што любая форма прапаганды аўтэнтычнага фальклору так ці інакш скажае яго, і імкнуцца, каб такіх скажэнняў было як мага менш. А што ж сцэнічныя формы? Зусім адмаўляцца ад іх няма патрэбы, але канцэртныя паказы аўтэнтычнага фальклору павінны быць іншымі. Галоўнае — ужо цяпер трэба адмовіцца ад практыкі шырокага і пастаяннага ўцягвання аўтэнтычных майстроў ва ўдзел у шматлікіх фестывалях, аглядах, конкурсах і да т. п. масавых мерапрыемствах. Недапушчальна ўціскваць аўтэнтыку ў «пракрустова ложе» мастацтва арганізаванай звонку самадзейнасці, і ўвогуле не трэба прапагандаваць традыцыйнае мастацтва разам з самадзейнасцю, бо гэта, як ужо гаварылася, вядзе да падмены арыгінала другаснымі формамі і ў выніку — да разбурэння арыгінала.

Канцэрты аўтэнтычнага фальклору павінны быць канцэртамі асобнымі і асаблівымі, спецыялізаванымі, яны вымагаюць навукова-папулярнага каментарыя, гэта па-першае. Па-другое, праграма кожнага такога канцэрта не можа быць проста «наборам нумароў». Справа ў тым, што кожны з шасці музычна-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі (нагадаю, што гэта Паазер'е, Заходняе і Усходняе Палессе, Панямонне, Падняпроўе і Цэнтральная Беларусь) мае сваю сістэму песенных жанраў, адметныя асаблівасці музычнага стылю, інструментальных ансамблевых і сольных традыцый. Гэтыя сістэмы адметнасцей і павінны быць адлюстраваны ў канцэртах. Нарэшце, трэцяе: для ўдзелу ў аўтэнтычных канцэртах трэба запрашаць не проста добрых, а выдатных выканаўцаў. Прычым, вызначэнне ступені іх майстэрства таксама вымагае пэўных ведаў ад таго, хто вядзе адбор. Народны мастак-карыфей звычайна валодае не толькі прыгожым моцным голасам непаўторнага «аўтэнтычнага» тэмбру, але і майстэрствам імправізацыі. У адпаведнасці з законамі вуснай традыцыі такі выканаўца кожную песенную страфу вар'іруе, таму песня ў яго «іграе», «вядзецца з пералівамі», «выкручваецца голасам», словам, жыве, дыхае — гэта і ёсць сапраўднае народнае мастацтва, такіх выканаўцаў і трэба запрашаць на выступленні.

На заканчэнне — пра маральны аспект узнятай праблемы. Духоўныя формы традыцыйнага народнага мастацтва не ахоўваюцца законам, яны безабаронныя. Нягледзячы, на тое, што беларускія этнамузыколагі неаднойчы звярталіся ў Міністэрства культуры Беларусі з прапановай выступіць з заканадаўчай ініцыятывай аб ахове аўтэнтычнага фальклору як жывога помніка духоўнай культуры беларусаў, становішча не мяняецца. Ва ўмовах, калі наша традыцыйнае мастацтва засталося па сутнасці бясправным і калі яго праблемамі займаюцца ў асноўным дылетанты (кадры прафесіяналаў амаль не рыхтуюцца), пытанні маральнасці ў адносінах да традыцыйнага мастацтва набываюць асаблівую вастрыню. Можна сказаць, што традыцыйная культура з'яўляецца той лакмусавай паперкай, якая выяўляе сапраўднае, а не паказушнае стаўленне да нацыянальнай спадчыны з боку як асобных людзей, так і дзяржаўных устаноў. Маральныя нормы тут ведаюць, здаецца, усе, але аднаго ведання недастаткова, патрэбны маральныя ўчынкі. Ды нават і гэтага мала: патрэбна актыўнае супрацьдзеянне тым учынкам, якія супярэчаць маральным нормам.

Хопіць дылетанцкіх слоў пра адраджэнне традыцыйнай культуры, хопіць «папяровых» праграм, патрэбна праца — карпатлівая, штодзённая, доўгатэрміновая, **прафесійная.** Тады, можа, дажывём да таго часу, калі чалавек, які ўжыў таўталогію «народны фальклор», будзе асмяяны як невук, а праслаўтыя «грушы на вярбе» і сапраўды пасохнуць, бо дзеля іх не будзе пажыўнага асяроддзя.

**Тамара ВАРФАЛАМЕЕВА.**

**МУЗЫКА**

# ...І «ГРУНВАЛЬДСКАЯ ПАСТАРАЛЬ»



**Запісы, якія днямі зрабіў у студыі Беларускага радыё Уладзімір Захараў, безумоўна, узбагацілі музычную фанатэку. Тут і класіка — І.-С. Бах; і зусім арыгінальныя творы — мініяцюры з «Дзіцячага альбома», напісанага У. Захаравым у 17-гадовым узросце, ды яго ж фантазія «Грунвальдская пастараль», створаная сёлета...**

**Для нашага чытача імя гэтага музыканта — новае, і таму праз нейкі час мы прадоўжым знаёмства з творчай асобай У. Захарава на старонках «ЛіМа». Пакуль жа толькі скажам, што малады гітарыст жыве і працуе ў Гродне; сёлета ён узяў удзел у VII Міжнародным конкурсе гітарыстаў у Кракаве і атрымаў чацвёртую прэмію, зрабіўшыся першым на Беларусі дыпламантам міжнароднага ўзроўню сярод гітарыстаў. На творчым спаборніцтве ў Кракаве У. Захараў апроч абавязковых твораў іграў і арыгінальныя беларускія: уласныя п'есы ды п'есы свайго калегі (і земляка) В. Жывалеўскага. Поспех гэтай музыкі, не падобнай ні да рускай, ні да польскай (ну, хіба толькі да старажытнай польскай), у замежных спецыялістаў натхніў У. Захарава на новыя творы, якія ён прапанаваў і для запісу на радыё.**

**У кароткай гутарцы з карэспандэнтам «ЛіМа» гітарыст прызнаўся, што сапраўды творчая атмасфера Міжнароднага конкурсу ў Кракаве, цікавасць маецітых калег да беларускай гітарнай школы пераканала яго ў слушнасці ўласных памкненняў: «Мы без сваёй музыкі — мы... не музыканты». П'есы У. Захарава, відаць, будуць прадстаўлены і ў канцэртных праграмах Гродзенскай гарадской «Тызенгаўз-капэлы», салістам якой ён стаў. А пакуль разам з аркестрам капэлы ён рыхтуе прэм'еру Канцэрта для гітары маладога гродзенскага кампазітара М. Калешкі.**

**С. Б.**

# АПЛАДЗІРАВАЎ СОПАТ



**Усцешна ўжо тое, што на традыцыйны Міжнародны фестываль эстраднай песні ў польскім горадзе Сопаце ўпершыню быў запрошаны беларускі выканаўца. Асабліва ж усцешна паведаміць нашым чытачам, што ён, малады, але досыць папулярны на Беларусі спявак Андрэй Хлястоў, выступіў на знакамітай сопацкай эстрадзе паспяхова і па выніках прадстаўнічага міжнароднага конкурсу заняў чацвёртае месца, быў адзначаны спецыяльным прызам. Павіншаваць Андрэя можна, відаць, не толькі з поспехам на прэстыжным песенным форуме, а і з прапановай прэстыжнага месца працы: як нам паведамілі, А. Хлястоў будзе цяпер салістам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі.**

Фота А. ХІТРОВА.

# ЎСЁ ПРА ТОЕ Ж...

**Барыс САЧАНКА**



ЧАС ВЯРТАЕ НОВЫЯ і новыя падрабязнасці смерці нашага нацыянальнага генія і прарока Янкі Купалы. «Настаўніцкая газета» (10 студзеня 1990 г.) надрукавала пісьмо настаўніка С. Дразда з Гродна, у якім ён цалкам падзяляе вывады, што былі зроблены мною ў артыкулах «Сняцца сны аб Беларусі» і «У сведкі запісы пакліча», а менавіта—Янка Купала загінуў у гасцініцы «Масква» не па волі выпадку, а паводле загадзя старанна сплanаванай і абдуманай акцыі. У якасці яшчэ аднаго доваду ён прыводзіць словы свайго калегі Івана Афанасьевіча Тартычнага, які быў «дэталёва дасведчаны ў трагедыі» і даўно, яшчэ ў 60-х гадах, сцвярджаў, «што, забойцы Купалы... «свае». «Версіі, лічыў ён, аб няшчасным здарэнні, аб самагубстве, як і «руцэ» нямецкіх разведчыкаў, не адпавядаюць сапраўднасці. Усё было інакш. Ён расказваў нам пра добра чутае або ўласна бачанае: «Ох, і хвацкая была (маецца на ўвазе жанчына, якая «падштурхоўвала, скідала» ў пралёт лесвіцы паэта.—**Б.С.**)... На пляцоўцы яна выконвала галоўную ролю, спрытна, нібы чараўніца. Пры «нечаканай» сустрэчы з паэтам аж войкнула, маўляў, ці не будзеце вы Янка Купала? Вы так слаўна пішаце, асабліва пра маладых, узносіце аж да нябёсаў, як тую парашутыстку, ці, як яе зваць, Алесю... Пяшчотныя словы выклікалі ўсмешку паэта, ён ужо нават памкнуўся аддзячыць «прыхільніцу» яго таленту, нахіліўся, каб пакласці далікатны пацалунак на яе мяккую руку...»

А вось другі дакумент, аўтэнтычнасць якога не выклікае ніякага сумнення:

**«Совершенно секретно**
**Народному комиссару внутренних дел СССР товарищу Берия**

**СПЕЦСООБЩЕНИЕ**

**28 июня в 22 часа 30 минут в гостинице «Москва» упал в лестничную клетку и разбился на смерть поэт Белоруссии Луцкевич (не здзіўляйцеся, так напісана ў гэтым спецпаведамленні.—Б.С.) Иван Даминикович, 1882 года рождения, литературный псевдоним Янка Купала.**

**Предварительным выяснением обстановки падения никаких данных, свидетельствующих о насильственной смерти или самоубийстве не установлено.**

**Происшествию предшествовали следующие обстоятельства:**

**Примерно в 21 час Луцкевич был приглашен в комнату № 1034 (10 этаж той же гостиницы) к проживающему там председателю Союза советских писателей Белоруссии Лынькову, где присутствовали там же писатель Крапива, редактор газеты «Красноармейская Правда» Миронов, сотрудник этой же газеты Харланов и зав. отделом редакции «Известия» Войтинская. Луцкевич пришел в нетрезвом виде и с присутствующими еще выпил несколько стопок шампанского.**

**Примерно в 22 часа Войтинская и Крапива из номера ушли и минут через 10 после них вышел Луцкевич.**

**Момент и обстоятельства падения Луцкевича никто не видел. Можно предполагать, что упал он с 9-го этажа, так как, начиная с 8 этажа в лестничной клетке обнаружены отдельные капли крови.**

**При осмотре комнаты, занимаемой Луцкевичем, обнаружены около стола две бутылки из-под шампанского и не убранная со стола посуда с запахом вина. Других данных, связанных с происшествием, не обнаружено.**

**Следствие ведет Военный прокурор гор. Москвы.**

**Начальник 3 управления НКВД СССР Горлинский.**
**29 июня 1942 года».**

Гэтае «спецсообщение» — афіцыйная версія смерці Янкі Купалы. Яна была вядомая і раней і нічога новага не дадае да таго, што мы ўжо ведалі. Але ці можна верыць, асабліва калі пачынаеш уважліва перачытваць гэтае забытанае (знарок ці незнарок?) «спецсообщение», якое, мякка кажучы, паведамляе няпраўду? Пачаць хоць бы з таго, што сапраўднае прозвішча Янкі Купалы не «Луцкевіч», а Луцэвіч; Лынькоў,— каму ж, як не яму, верыць (Ліст да Л. М. Федчанка), жыў у гасцініцы «Масква» не ў нумары 1034, а ў нумары 1036; у гэтым нумары ў час трагедыі не было ні рэдактара газеты «Красноармейская Правда» Міронава, ні супрацоўніка гэтай жа газеты Харланава, ні загадчыцы аддзела газеты «Известия» Вайцінскай... Іх прыходу Янка Купала чакаў, дзеля чаго нават падрыхтаваў быў стол з пачастункам у сваім нумары, які, дарэчы, знаходзіўся на чацвёртым паверсе... У нумары ў Лынькова былі тады зусім іншыя людзі і яны сцвярджаюць, што ў той дзень Янка Купала не быў «в нетрезвом виде» (чакаў жа гасцей!) і не «выпил» з «присутствующими» «еще несколько стопок шампанского». Ды і ніякіх «стопак» у нумары, дзе жылі Міхась Лынькоў і Кандрат Крапіва, не было — былі звычайныя шклянкі...

Выклікае пярэчанне і тое, што, як паведамляе Гарлінскі, «примерно в 22 часа Войтинская и Крапива из номера ушли (Вайцінскай жа ў нумары не было! Яна прыйшла ў гасцініцу потым), и минут через 10 после них ушел Луцкевич».

Як расказваюць сведкі, Янка Купала не сам «вышел», а яго выклікалі па тэлефоне, пра што чамусьці ўмоўчвае Гарлінскі. Няпраўда і тое, што «момент и обстоятельства падения Луцкевича никто не видел». Бачылі, але трэба было зрабіць выгляд, што не бачылі. Не паведамляе Гарлінскі і тое, як і чаму Янка Купала апынуўся на 9 паверсе — 9 і 10 паверхі перагароджаныя наглуха, не маюць лесвічнага праходу. Трапіць з 10 паверха на 9 можна толькі ліфтам... Ці па пажарнай лесвіцы... А калі Янка Купала выклікаў ліфт, то чаму выйшаў на 9 паверсе, а не на чацвёртым, дзе ён жыў?..

Зусім не так, як апісвае начальнік Трэцяга ўпраўлення НКУС СССР, выглядаў і пакой, у якім жыў Янка Купала і які быў адчынены пасля яго смерці... Няўжо тыя дзве бутэлькі шампанскага, што стаялі на стале ў нумары, былі кімсьці выпіты, каб мець дадатковыя доказы таго, што Янка Купала «пришел в нетрезвом виде» ў нумар да Міхася Лынькова?..

Насцярожвае і паведамленне ўжо ў самым пачатку гэтага «зусім сакрэтнага» дакумента — «предварительным выяснением обстановки падения никаких данных, свидетельствующих о насильственной смерти или самоубийстве не установлено». Што гэта? Каб адразу супакоіць «народнага камісара ўнутраных спраў СССР таварыша Берыю», што тыя, каму даручалася знішчыць нашага народнага паэта, спрацавалі чыста, ніякіх «данных, свидетельствующих о насильственной смерти или самоубийстве» не пакінулі? Ды і колькі разоў і кім перапісвалася гэтае «спецсообщение», каб у ім усё гэтак пераблытаць, каб давесці — «поэт Белоруссии Луцкевич Иван Даминикович, 1882 года рождения, литературный псевдоним Янка Купала» быў п'яны і таму, маўляў, не дзіўна, што з ім здарыўся няшчасны выпадак?.. Яно ж, гэтае «спецсообщение», прызначалася не толькі народнаму камісару ўнутраных спраў СССР таварышу Берыю, а і таварышам Сталіну і Молатаву, пра што ёсць на ім у самым пачатку паметка: «Разослать: т. Сталину, т. Молотову...»

Заданне было выканана і трэба было пахваліцца перад тымі, хто яго даваў...

Відаць, паведамленне пра смерць Янкі Купалы чакалася, яно было не менш важнае для Сталіна і Молатава, чым зводкі з франтоў вайны, бо яно разам з імі легла на стол кіраўнікоў дзяржавы ўжо на наступны дзень пасля трагедыі — 29 чэрвеня 1942 года...

●

Бытуе, настырна распаўсюджваецца думка, быццам беларусы самі, добраахвотна выракліся сваёй мовы.

Вось толькі некалькі фактаў такой «добраахвотнасці».

Праваслаўнае духавенства ў часы Вялікага княства Літоўскага працавала ў Беларусі на блізкай і зразумелай пераважнай большасці народу мове. Каб паланізаваць і каталізаваць край, польскі сойм у 1667 г. вызваліў ад вайсковых абавязкаў каталіцкае і уніяцкае духавенства (яно працавала па-польску), праваслаўнае ж духавенства як ніжэйшае павінна было плаціць падаткі. Не задаволіўшыся гэтым, на наступны год сойм пастанавіў караць за пераход з каталіцтва або уніяцтва ў іншую веру выгнаннем з краю. Але і гэтага здалося мала — у 1676 г. быў выдадзены закон, паводле якога пад пагрозай кары смерцю праваслаўным забаранялася выязджаць за межы свайго краю або прыязджаць у край каму б там ні было з-за мяжы...

Урэшце, у 1697 г. польскі сойм прыняў пастанову, якая забараняла ўжываць беларускую мову ва ўсіх урадавых установах, судах справаводстве і друку...

Як вядома, у канцы XVIII стагоддзя Вялікае княства Літоўскае было далучана да Расіі (1772, 1793 і 1795 гг.). Пазбаўленую ўсякіх правоў польскімі паланізатарамі беларускую мову ніхто і не думаў аднаўляць. Наадварот, было зроблена ўсё магчымае, каб жыхары краю забылі, што яны беларусы, ведалі сваю мову. Кацярына II разам са сваімі памочнікамі распрацавала цэлы план русіфікацыі нярускіх народаў. Вось што, напрыклад, пісала яна князю Вяземскаму: «Малая Россия, Лифляндия и Финляндия суть провинции, которыя правятся конфирмованными им привилегиями: нарушить оныя отрешением всех вдруг весьма непристойно было б, однако же называть их чужестранными и обходиться с ними на таковом же основании есть большее, нежели ошибка, а можно назвать с достоверностию глупостию. Сии провинции, так же Смоленскую, надлежит легчайшими способами привести к тому, чтоб они обрусели и перестали глядеть как волки из лесу».

Мураўёў-вешальнік і яго паслядоўнікі план гэты ўдасканалілі, пра што неаднойчы пісалася ўжо ў нашым друку. Беларуская мова неўзабаве і зусім была забаронена, і забарона гэтая трывала аж да 1905 года.

Час росквіту беларускага слова пасля рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гг. і пасля 1917 трываў нядоўга. Спярша ў Заходняй Беларусі, потым у Савецкай пачаўся новы ўціск беларускага слова, што прывяло ледзь не да нематы цэлага народа.

●

Межы Беларусі... Бадай што ні ў адной дзяржавы няма такіх адвольных, далёкіх ад праўды межаў, як у нашай. Праводзіліся ж яны не самімі беларусамі, а тымі, хто на працягу стагоддзяў вяршыў наш лёс. Таму зноў і зноў даводзіцца звяртацца да самых розных крыніц, дакументаў, каб высветліць сапраўдныя межы беларускай зямлі, тыя мясціны, дзе спрадвеку жылі і жывуць беларусы. Немалаважнае значэнне ў гэтым маюць працы вучоных, бо менавіта яны на падставе вывучэння народнай творчасці, мовы, культуры, быту вызначалі гэтак званыя этнаграфічныя межы. Першая Вялікая Савецкая Энцыклапедыя (М., 1927 г., т. 5, стар. 352) пісала:

**«Этнографическая Белорусская область охватывает, кроме Белорусской Советской Социалистической Республики, также некоторые части РСФСР, как то части Брянской, Смоленской и Псковской губ. Вне пределов Советского Союза лежит т.н. Западная Б., состоящая из отошедших по Рижскому договору 1921 к Польше территорий с белорусским населением. Сюда относятся воеводства: Виленское, Новогрудское, Полесское и большая часть Белостокского. Наконец, сев.-зап. угол этнографической белорусской территории (в бывших уездах Двинском, Люцинском и Режицком) принадлежит в наст. время Латвии. Указанные этнографические границы Б., как области, в которой преобладает белорусское население, определены научными трудами академика Карского и А. Смолича. Границы эти не вполне совпадают с границами распространения белорусского языка. Согласно карте восточно-славянских диалектов, составленной Московской диалектической комиссией, белорусские по основе диалекты распространены и далее на Великороссию, а именно—почти во всей Смоленской губ. (за исключением Гжатского уезда) и в большей (юго-зап.) части Калужской губ. Белорусские влияния на великорусские диалекты отмечены на этой карте почти во всей псковской губ. (за исключением Порховского уезда), в юго-зап. части Тверской и даже в юж. приграничной полосе Ленинградской губ. С другой стороны, юго-зап. угол Б., а именно—почти все Полесское воеводство и юж. часть Мозырского округа БССР отмечены там, как районы преобладания сев.-украинских диалектов. Однако, поскольку население Калужской и Псковской губ. в большинстве случаев отличается великорусскими бытовыми особенностями, и жители их считают себя великороссами,—эти районы не включаются в состав этнографической Б. Точно так же, поскольку население Полесья связано с белорусами общими бытовыми отличиями, единством культуры и истории и официально признает себя белорусами, постольку этот район обычно относится к Б.**

**В этих границах Б. занимает территорию в 317 тыс. км кв. и насчитывает около 12 милл. населения.**

**До революции Белоруссия входила в состав Сев.-Зап. края, при чем западная ее часть часто описывалась вместе с территорией современной Литовской республики под именем Литвы или Литовских губ. (Гродненская, Виленская), хотя литовцев там только незначительное меньшинство».**

Цікава: пра ўсё гэта ў апошнім выданні «Советская энциклопедия» (М., 1970) ужо нічога не піша. Паведамленне толькі, што «БССР... граничит на З. с Польшей, на С.-З с Литов. ССР, на С. с Латв. ССР, на С., С.-В. и В. с РСФСР, на Ю. с УССР. Пл. 207,6 тыс. км². Нас. 9 млн. чел. (на 15 янв. 1970)».

Усё быццам правільна. І разам з тым... Словам, ёсць пра што думаць...

●

Польскае дзіця ўжо ў першым класе завучвае напамяць верш:

— Kto fy jestes?
— Poliak maly.
— Iaki znak twôj?
— Orzel bialy...

Рускае дзіця, вучачыся ў школе, засвойвае на ўсё жыццё словы пра сваю мову — «о великий, могучий, правдивый и свободный русский язык» (Тургенеў), словы У. Маякоўскага — «Да будь я и негром преклонных годов, и то без унынья и лени, я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин», ды і многае іншае, што выхоўвае гордасць за свой народ, сваю мову... А беларускае дзіця, пайшоўшы ў школу, вучыла тое самае, што і польскае ці рускае. Пра свой жа народ, сваю мову калі хто з настаўнікаў і гаварыў, дык не лепшае. І мы яшчэ здзіўляемся, адкуль у большасці беларусаў скептыцызм, нігілізм да свайго народа і сваёй мовы...

●

Перагортваю старонкі выпушчанага ў 1924 годзе выдавецтвам «Савецкая Беларусь» дэкламатара «Чырвоны дудар». Як ён цудоўна, з густам аформлены! Прыгожая, у некалькі фарбаў вокладка, партрэты пісьменнікаў і акцёраў, да кожнага твора даюцца заставачкі і канцоўкі. Шрыфт таксама падабраны такі, што вачэй не адвесці. І змест дэкламатара адпаведны афармленню — укладалі ж гэты зборнік Янка Купала, Цішка Гартны і Алесь Ляжневіч. Сярод аўтараў — самыя лепшыя беларускія пісьменнікі. Гэта сапраўдны падарунак усім, хто любіць беларускае слова, а найперш — мастацкай самадзейнасці, клубным работнікам. Вось бы цяпер нешта падобнае выдаць!

Ёсць у гэтым дэкламатары, акрамя твораў, якія шырока вядомыя, неаднаразова перадрукоўваліся, і тыя, якія як бы навечна засталіся толькі на старонках гэтага выдання. Між іх — прыпеўкі тады яшчэ маладога Кандрата Крапівы «Нэпія» і гумарыстычны верш А. Цярэбіча (псеўданім ці не Алеся Ляжневіча?) «Што і як будзе», якія падаліся мне не пазбаўленыя цікавасці для сённяшняга нашага чытача.

●

## НЭПІЯ

Прыпеўкі

**Скарацілі ўсюды штаты —**
**Я без хлеба і без хаты.**

**Усюды трэсты, сіндыкаты,**
**У мяне ж на портках латы.**

**Нэп адзеўся ў шаты-латы,**
**У мяне ж на лаце лата.**

**Нэп вунь дыбае на «корках»,**
**А я шлэпаю ў апорках.**

**Нэп пахучы дым пускае,**
**Мне ж махоркі не хапае.**

**Ох, у Нэпа кішанішча!**
**У мяне ж, дык вецер свішча.**

**Нэп сядзіць «лімоны» лічыць,**
**Мне ж пад нос ён «дулю» тычыць.**

**Жонка Нэпа — проста краля,**
**Мая ж — так сабе Яўгаля.**

**Жонка Нэпа ўся у срэбры**
**А Яўгаля уся у зрэб'і.**

**Вунь у Нэпа дзеці скачуць,**
**А мае дык есці плачуць.**

**Нэп імчыцца, шыны-гума —**
**Не дагоніш — і не думай.**

**Едзе Нэп — зямля трасецца,**
**Мая ж «пара» ледзь пляцецца.**

**Залаты Нэп зэгар мае,**
**А мой вунь на небе ззяе.**

**Нэп вандруе ў галіфэ.**
**У мяне ж, дык проста «фэ»!**

**Мясам корміць цюцьку Нэп,**
**Я ж і сам брашу за хлеб.**

## ШТО І ЯК БУДЗЕ

**Хачу сказаць я вам, браточкі,**
**Што калісь будзе на зямлі.**
**Ну, адным словам, рай настане,**
**Абы мы толькі дажылі.**

**Цудоўнасць будзе у прыродзе,**
**З гарачыні каб не папрэць.**
**Свяціць нам сонца ўночы будзе,**
**А месяц днём нас будзе грэць.**

**Усюды цёпла тады будзе,**
**Пачнём без вопратак хадзіць,**
**Краўцоў, шаўцоў тады не стане,**
**Бо ім не будзе чаго шыць.**

**Усе тады мы будзем роўны,**
**Не трэба будзе працаваць,**
**А толькі будзем піць і есці**
**І па садох сабе гуляць.**
**Бо будзе нам ўсяго даволі,**
**Як масла, хлеба і каўбас,**

**Курэй, смятаны, сыру, мёду,**
**Запас вялікі будзе ў нас.**

**Напрыклад, возеры смятанай,**
**А рэкі мёдам пацякуць**
**Ды малако пальецца з неба**
**І кучы масла парастуць.**
**Балоты зменяцца у кашу,**
**Гарамі хлеб будзе ляжаць,**
**А яек будзе, як камення,**
**Абы хацеў толькі збіраць.**

**На дрэве парастуць каўбасы,**
**А цукер будзе ў курганох,**
**А дзіч уся смажаная будзе,**
**Абы ты есці толькі мог.**

**Толькі гарэлкі там не будзе,**
**А калі хто захоча піць,**
**То мусіць з'ездзіць аж у пекла**
**І там у чорта папрасіць.**

**Там будзе рэдзька і цыбуля,**
**Махорка ўсюды парасце,**
**Што ты захочаш — будуць птушкі**
**Табе прыносіць на хвасце.**

**Між намі лаянкі не будзе,**
**Усе мы згодна будзем жыць,**
**Нават апосталы святыя**
**Будуць у госці к нам хадзіць.**

**Але пакуль усё гэта будзе,**
**Трэба сягоння ісці спаць,**
**А заўтра ўласнымі рукамі**
**Трэба на хлеб нам зарабляць.**

Пра тое, што Гітлер і яго спадручныя, прыйшоўшы да ўлады, палілі і знішчалі кнігі няўгодных аўтараў, — вядома кожнаму, нават школьніку. Але што тое самае рабілася ў нашай краіне Сталіным і яго памагатымі — пра гэта пачынаем гаварыць толькі сёння. Вось «Зводны кантрольны спіс выданняў ДВБ, якія спісаны ў макулатуру», складзены «сектарам кнігагандлю дзяржаўнага выдавецтва Беларусі» (Мн., 1935). На 126 старонках гэтага выдання пералічана 1.778 назваў кніг і часопісаў, якія падлягаюць тэрміноваму знішчэнню. Сярод гэтых назваў творы беларускіх і рускіх пісьменнікаў, пераклады з замежных моў, гістарычная, краязнаўчая літаратура, многія падручнікі, і нават слоўнікі... Гэты «Зводны кантрольны спіс...» не адзіны, што складаліся пэўнымі службамі і былі абавязковыя для выканання бібліятэчных работнікаў. Такія спісы складаліся штогод, а то і па некалькі разоў на год аж да зусім нядаўняга часу...

Гітлера мы называем фашыстам, варварам... А як назваць Сталіна і яго вучняў, паслядоўнікаў?

●

Выдавецтва «Навука і тэхніка» вось каторы ўжо год выдае серыю «Нашы славутыя землякі». Але няма яшчэ сярод кніг гэтай серыі кнігі пра выдатнага беларускага вучонага, кнігавыдаўца, перакладчыка, асветніка Ілью Фёдаравіча Капіевіча (Капіеўскага), якой ён безумоўна ж заслугоўвае.

Ілья Фёдаравіч Капіевіч нарадзіўся на Мсціслаўшчыне ў сярэдзіне семнаццатага стагоддзя. Вучыўся ў Слуцкай кальвіністкай школе. Ратуючыся ад ганенняў езуітаў, выехаў у Амстэрдам, дзе ў 1700 г. заснаваў сваю друкарню. Там ён выдаваў кнігі, прызначаныя для распаўсюджвання ў Расіі. Але галоўная заслуга І. Ф. Капіевіча ў тым, што ён склаў праект рэформы ўсяго гэтак званага рускага царкоўнага алфавіту — грамадзянскага пісьма і паказаў яго Пятру Першаму, які якраз у той час знаходзіўся таксама ў Галандыі. Пятру Першаму гэты праект спадабаўся і ён аддаў загад адліць шрыфт паводле гэтага праекту і сваім указам увёў яго ў Расіі. Доўгі час гэты шрыфт, як піша Адарукоў у працы «Книга гражданской печати в XVIII в.» (М., 1926) «называли то амстердамскими литерами, то гражданской, то белорусской азбукой». М. І. Шчалкуноў у сваёй гісторыі кнігадруку піша: «Поручить протестанту составление книг для исконно-православной России мог только Петр, и это было, вероятно, по тому времени целой революцией». Шрыфт той, беларускі, Капіевічаў, ужываецца і цяпер, ён стаў асновай для пісьма многіх народаў... Але заслуга І. Ф. Капіевіча не толькі ў гэтым — ён адкрыў у Амстэрдаме школу, у якой вучыў розным навукам выхадцаў з Расіі. Сам І. Ф. Капіевіч пісаў у адным з лістоў Пятру Першаму: «Известно есть твоему пресветлейшему царскому величеству, колико я князей и дворян твоего пресветлейшего царского величества учил боле году, а за тое не желал от них денег, еще же трудился, их ради, днем и нощию. Вси же поехали и спасибо не сказавши за учение, но сопротивно мои ж еще глобусы четыре, не заплативши, завезли: два — князь Осип Иванович Щербатов тые глобусы, которые были на индийском дворе. Два глобуса завезли Семен Андреевич Салтыков за тое, что я его долгое время учил и трудился его ради...»

Заслуг перад Расіяй, перад усім адукаваным светам у І. Ф. Капіевіча стольні, што іх цяжка і пералічыць. Ён першы выдаў для Расіі лексіконы — падручнікі для вывучэння іншаземных моў; ён першы ўжыў у друку індыйскія ці, як іх яшчэ завуць, арабскія лічбы (да таго ўжываліся літарныя); ён напісаў і выдаў вялікую колькасць свецкіх кніг, сярод іх «Введеніе краткое во всякую исторію...», «Краткое и полезное руковедение во арифметику», «Уготование и толкование ясное поверстания кругов небесных», «Грамматика латинская», «Морского плавания книга», «Святцы, или Календарь», а таксама пераклаў творы Гамера, Эзопа, іншых старажытных аўтараў. Яго пераклады, перадрукаваныя пад агульнай назвай «Римские деяния» ў 1877—78 г. таварыствам «Общество любителей древнерусского письма», П. П. Вяземскі ацэньваў як напісаныя па-беларуску («Издаваемый текст «Римских деяний» писан на белорусском наречии, называемом нередко в наших рукописях то польско-русским, то литовским, то славяно-польским»).

Апошнія гады І. Ф. Капіевіч (памёр у 1714 г.) жыў у Маскве, працаваў у Пасольскім прыказе. Ён перапісваўся з Г. Лейбніцам, шмат рабіў дзеля пашырэння навукі і ведаў.

Дарэчы, А. С. Пушкін хваліў Пятра Першага якраз за тое, што ён «бросил на словесность взор рассеянный, но проницательный. Он возвысил Феофана, ободрил Копиевича...» (А. С. Пушкин, Полное собрание сочинения, т. 7, стар. 308. М., из-во «Наука», 1964).

●

Чуюцца галасы беларускай грамадскасці пра неабходнасць адмены пастановы Савета Народных Камісараў БССР ад 28 жніўня 1933 г. «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», якая надта ж скалечыла нашу мову. І не толькі пісьмовую, але і вусную. Пастанова ж прымалася не дзеля ўдасканалення правапісу, пашырэння ўплыву і аўтарытэту беларускай мовы, а, як паведамлялася, «у мэтах рашучага выгнання з беларускага правапіса нацыянал-дэмакратычных уплываў і скажэнняў», бо «беларускі нацыянал-дэмакратызм, зыходзячы з сваіх буржуазных, контррэвалюцыйных мэт, праводзіў падрыўную шкодніцкую работу як на гаспадарчым, так і на культурным фронце, у тым ліку і ў галіне мовы, тэрміналогіі і правапіса. Нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, ствараў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і засмечваў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі. Існуючы беларускі правапіс значна засмечан указанымі нацыянал-дэмакратычнымі плынямі і таму падлягае зменам».

Так, у пастанове былі словы і пра неабходнасць «палягчэння шырокім працоўным масам вывучэння беларускай пісьменнасці, аслабанення школы ад непрадукцыйнай работы пры вывучэнні беларускага правапіса», дзеля «далейшага развіцця культуры беларускай мовы і поўнага падпарадкавання беларускага правапіса задачам выхавання працоўных у духу пралетарскага інтэрнацыяналізма». Але гэта былі толькі словы...

Пастанова дадала новы імпульс барацьбе з лепшымі сіламі беларускай інтэлігенцыі, якія яшчэ не былі знішчаны.

**«Новы правапіс ёсць адной з канкрэтных праяваў тае барацьбы, каторую вядзе партыя за будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу, — пісала газета «Звязда» 16 верасня 1933 г. у артыкуле «Новы беларускі правапіс». — На жаль, гэтай праўды яшчэ не разумеюць некаторыя таварышы. Наадварот, у апошнім часе заўважаны тэндэнцыі сярод працаўнікоў, скіраваныя на тушаванне абмылкаў і скажэнняў, што былі і ёсць у Беларускай Акадэміі Навук, асабліва ў Інстытуце мовазнаўства, дзе астачы нацдэмаў прабавалі і прабуюць пад рознымі прыклепамі далей шырыць свае ідэі. Партыя тры гады назад разбіла і выгнала з Акадэміі Навук Лёсікаў, Ластоўскіх, Некрашэвічаў, Цвікевічаў. Дык хто ж даў права людзям, седзячым у Інстытуце мовазнаўства так нахапна сцерагчы гэтую спадчыну? Як магло стацца, каб ні прэзідыум Акадэміі навук, ні партыйная ячэйка не заўважылі гэтага і не ўжылі сродкаў дзеля ачышчэння Інстытута мовазнаўства ад класава-чужых элементаў і іх спадчыны?»**

Вядомая справа, сродкі «дзеля ачышчэння Інстытута мовазнаўства ад класава-чужых элементаў» былі «ўжыты», пра што красамоўна гаворыць зборнік «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы», які падрыхтаваў і выдаў ужо ў наступным, 1934 г., Інстытут мовазнаўства пад грыфам Акадэміі навук. Вось што пісалася ў гэтым зборніку:

**«У сувязі з паяўленнем рэфармаванага правапіса беларускай мовы захлюпала нацыяналістычнае балота, зашушукалася нацдэмаўскае ахвосце... Астачы контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў унутры нашага краю ўзнялі дзікае галашэнне супроць спрашчэння правапіса... У апошнія часы ахвосце разгромленага нац-дэмакратызма, дзякуючы прытупленню класавай пільнасці некаторых выдавецкіх работнікаў, змагло пралезці ў наш друк з рэваншысцкім контррэвалюцыйнымі вылазкамі. Вазьміце твор М. Лужаніна «Галасы гарадоў» (выд. 1933 г.): У гэтым творы Лужанін вытрымлівае контррэвалюцыйны стыль «самабытнасці» і ўжывае такія словы, пасля якіх трэба даваць самае шырокае тлумачэнне, але ад якіх, па Лужаніну, вее «першабытнай прастатой і свежасцю...»**

**«Мова ў аповесцях Калюгі — гэта выразная кулацкая, хутаранская мова і яна арганічна выцякала з кулацкай нацыяналістычнай сутнасці яго творчасці».**

**«Мова ў вершах Таўбіна — вычурная, штучна кніжная, жаргоніраваная — таксама арганічна выцякала з буржуазнай сутнасці твораў Таўбіна, гэтага полпрэда ў літаратуры буржуазна-кулацка-нацыяналістычнай інтэлігенцыі».**

**«Пад моцным нацыяналістычным уплывам знаходзіцца паэт Хадыка. Мова яго вершаў перасыпана архаізмамі, не прынятымі ў савецкай літаратуры правінцыялізмамі...»**

**«Контррэвалюцыйныя нацдэмаўскія вылазкі ў галіне літаратуры вядуць Сідарэнка-Пеначкін, Баранавых, Ніканові ч...»**

**«Контррэвалюцыйная нацдэмаўская работа ў галіне мовазнаўства праводзілася і ў мастацкай літаратуры. Успомнім арганізатараў контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай ячэйкі, так званага літзгуртавання «Узвышша» Дубоўку, Пушчу, Бабарэку...»**

Усіх, каго называў друк, хто быццам парушаў пастанову, дапускаў у сваёй творчай працы «нацдэмаўскія вылазкі», як контррэвалюцыянераў арыштоўвалі і... Рэдка ўжо хто з іх заставаўся жыць...

Што ж да самой пастановы «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», дык яна, нягледзячы на ўсе змены, што адбыліся ў нашым грамадстве за апошнія гады, дзейнічае і сёння. Ніхто яе не адмяняў, хоць яна была і прынята без уліку заўваг Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук, без згоды многіх вучоных. У тыя гады пытанні мовазнаўства, як пісалася ў прадмове да ўжо «ачышчанага ад класава-варожай засмечанасці» «Руска-беларускага слоўніка» (Мн., 1937), вырашаліся ў ЦК КП (б) Б, які «сістэматычна вёў рашучую барацьбу з контррэвалюцыйнымі нацдэмамі (...) за развіццё беларускай сацыялістычнай культуры і яе важнейшай часткі — беларускай мовы. Пленумы ЦК КП (б) Б і бюро ЦК не раз вырашалі пытанні класавай барацьбы на мовазнаўчым фронце, пытанні росту і росквіту беларускай мовы».

●

Расстраляным пакаленнем называе ўкраінская крытыка тых, хто прыйшоў у літаратуру ў 20—30-я гады і потым быў рэпрэсіраваны. І яна не памыляецца, як не памылілася б і нашая крытыка, каб назвала гэтак тое пакаленне, што прыйшло ў беларускую літаратуру ў тыя ж 20—30-я гады. Большасць жа пісьменнікаў, самая таленавітая частка іх былі калі не расстраляны, дык загінулі ў сталінскіх турмах і лагерах. Засталіся жыць, былі выпушчаны на волю толькі адзінкі — «недастраляныя»... Але і яны не змаглі, не паспелі расказаць усёй жудаснай праўды пра сябе, свой час, пражытае...

Такое таленавітае пакаленне і так мала мы пра яго ведаем!

●

Як усё паўтараецца! У 1926 годзе, калі ішла гэтак званая «беларусізацыя», газета «Савецкая Беларусь» пачала дыскусію аб беларускай мове — патрэбна яна ці непатрэбна. Сёння, калі прыняты «Закон аб мовах у Беларускай ССР» і сёй-той спрабуе — нясмела, асцярожна, з аглядкаю — каб чаго непажаданага не выйшла? — яго выконваць, зноў на старонках друку — у «Народнай газеце», «Знамя юности», «Белорусской ниве», «Советской Белоруссии» — тая ж дыскусія. Тады, у 1926 годзе, не вытрымаў, адгукнуўся на адно з выступленняў у «Савецкай Беларусі» вершам «Акоў паломаных жандар» Янка Купала:

**Акоў паломаных жандар,**
**Сліўнём зарыўшыся ў нару,**
**Сядзіць расійскі чынадрал,**
**«Слуга оцечаству, цару».**
**Ён сніць былую моц і шыр:**
**Цары, царыцы, цэрквы, трон,**
**Пагромы, катаргі, Сібір..:**
**О, Русь! Прымі раба паклон!**
**Табе такой служыць па гроб**
**Не кіну я, і расцярзаць**
**Не дам дзяржаўнасці «оплот»**
**«Цябе, «единую», о, маць!**
**Цяпер, што бачу я кругом?**
**Пасад маўклівы збуран скрозь..:**
**Рэспублікі!? Ды з «языком»**
**З іх лезе кожная ўсур'ёз.**
**А ты, о рускі мой «язык»!**
**Мой «общарускі», што з табою?**
**Табе слухмян быў мал, вялік,**
**Быў славен ты сваёй кляцьбой.**
**Табой сам самадзержац цар**
**Пісаў ланцужны свой закон,**
**Што маці-Русь есі жандар**
**Усёй Еўропы!**
**І свой сон**
**Сніць далей гэты царадвор,**
**Калі надыдзе яму дзень,**
**Ізноў пад лёзгат царскіх шпор**
**Свой распасцёрці чорны цень.**
**Ён, гэты скінуты сатрал,**
**Не знае, што ў свабодзе жыць;**
**Яму дай вісельню, дый каб**
**На ёй «языкі» ўсе ўшчаміць.**
**Не па нутру, як смерць яму,**
**Што беларускае дзіцё**
**Бяжыць у сцюжную зіму**
**У школку пазнаваць жыццё.**
**Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх,**
**Напоўадзеты вёскі сын,**
**У роднай мове ўчыцца змог?:..**
**О, стыдна, рускі «гражданин»!**
**Язык твой царскі ён табе**
**Не выража, спакойны будзь!**
**Цябе тваім жа у кляцьбе**
**Ён не забудзе памянуць.**

О Вялікі Купала! Як далёка ты глядзеў, як наперад усё бачыў!

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ФОРМУ ЗНЯЦЬ АДМОВІЎСЯ...

...Існуе легенда аб тым, як адно славянскае племя вяло вайну з туркамі. Каб разведаць сілы туркаў, якія наступалі на зямлю гэтага невялікага славянскага племені, у разведку паслалі драбаў (рыцараў). Драбы ў час разведкі ўбачылі, што ў туркаў вялікая сіла. Гонар драбаў не дазваляў ім хлусіць, але яны, вярнуўшыся з разведкі, сказалі сваім ваякам: «Ворагаў мала. Мы пераможам!» Драбы свядома не сказалі ўсю праўды, бо інакш бы ў ваякаў упаў бы дух і радзіму ім давялося б аддаваць ворагам без бою. А гэтага яны не маглі зрабіць...

За апошнія дзесяцігоддзі ў нашым беларускім друку выліта шмат бруду на беларускае дваранства, шляхту. І толькі цяпер да нас, як кажуць, даходзіць, што лепшая частка беларускай шляхты заўсёды верна служыла свайму народу.

Хачу згадаць аднаго з лепшых, па маім перакананні, прадстаўнікоў яе — слуцкага шляхціца капітана Генеральнага штаба Сокала-Кутылоўскага, які ў 20-ыя гады ўзначаліў першую беларускую дывізію. Яго паводзіны ў час грамадзянскай вайны і ў час другой сусветнай вайны і нагадалі мне легенду аб славянскім племені, якое ваявала з туркамі.

Калі Чырвоная Армія ў час грамадзянскай вайны пачала наступ супраць палякаў, якія ў той час акупавалі Беларусь, у Слуцку вырашылі не аддаваць нікому сваю зямлю без бою. У той час у Слуцку жыло каля трохсот афіцэраў. Яны пачалі фарміраваць слуцкі і грозаўскія палкі, якія былі аб'яднаны ў дывізію. Як і водзіцца ў вайсковым свеце, камандаваць дывізіяй афіцэры прапанавалі старшаму па вайсковым званні. Ім быў генерал, прозвішча якога нам пакуль што невядома. Генерал адмовіўся ўзначаліць дывізію. Ён сказаў: «Вас мала». Генерал трымаўся здаровага сэнсу, ён не захацеў весці на верную пагібель сваіх землякоў. Але не заўсёды мае рацыю той, хто кіруецца толькі здаровым сэнсам. Нездарма ж М. Горкі некалі пісаў: («Безумство храбрых — вот мудрость жизни»). Слуцкая дывізія ўсё ж была сфармавана. У рэшце рэшт яе ўзначаліў капітан Сокал-Кутылоўскі. Яна некалькі дзён вяла баі ў заходняй частцы Случчыны, а потым адышла ў Заходнюю Беларусь і там была абяззброена палякамі. Сокал-Кутылоўскі і яго таварышы без бою Случчыну не аддалі. Гэтым яны пакінулі аб сабе вечную памяць у гісторыі Беларусі.

У час другой сусветнай вайны Сокал-Кутылоўскі меў званне маёра. Ён камандаваў адным з батальёнаў Беларускай краёвай абароны. Яго батальён лясных стральцоў ішоў у авангардзе беларускіх падраздзелаў краёвай абароны, якія прарываліся ў амерыканскую зону Германіі. Прарыў быў паспяховым, але амерыканцы паступілі не высакародна. Сокала-Кутылоўскага і некаторых іншых беларускіх вайскоўцаў яны перадалі на яўную смерць—Чырвонай Арміі. Перад адпраўкай амерыканцы пераапраналі беларускіх вайскоўцаў у нейтральную форму, але маёр Сокал-Кутылоўскі адмовіўся зняць з сябе форму беларускага афіцэра. Ён застаўся верным сваім перакананням да канца.

**РЫГОР РОДЧАНКА,**
**краязнаўца.**

г. Слуцк.

## Прыносім прабачэнні

**У мінулым нумары «ЛіМа» па віне рэдакцыі дапушчана прыкрая памылка. Прыносім свае прабачэнні пісьменніку Івану Шальманаву і шчыра спачуваем яму ў сувязі са смерцю МАЦІ.**

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ВЯРНІЦЕ НАРАБАВАНАЕ!

СТО ВОСЕМДЗЕСЯТ год назад, 24 чэрвеня 1812 года, французскі імператар Напалеон Банапарт перайшоў Нёман і пачаў вайну з Расіяй. У саставе яго арміі былі і нашы землякі. Некаторыя дайшлі да Масквы ў корпусе І. Панятоўскага ці 8-м уланскім палку Дамініка Радзівіла. Некаторыя былі тут — у Слуцку, Мінску, Вільні, Барысаве. Яны блакіравалі Бабруйскую крэпасць з 5000-м гарнізонам, неслі ахоўную службу, лавілі марадзёраў і дэзерціраў. Пасля таго, як скончылася вайна, па ўсёй Еўропе Напалеона называлі злодзеем і рабаўніком. І гэта, безумоўна, адпавядала ісціне. Аднак што тады казаць пра паводзіны расійскай арміі на Беларусі? Напачатку, для параўнання, паглядзім, хоць збольшага, што «прыдбаў» Напалеон у Капыльскім і суседнім Нясвіжскім раёнах былога Слуцкага павета.

У 1912 годзе, праз сто год, былі падлічаны страты ў вайне. Па Слуцкім павеце французамі быццам бы былі абрабаваны наступныя цэрквы: Урэцкая, Грозаўская, Труханаўская, Старобінская, Пруская, Раманоўская, Капыльская, Пукаўская і Нясвіжская Прэабражэнская. У горадзе Слуцку абрабаваны наступныя цэрквы: Саборная, Мікалаеўская, Георгіеўская, Міхайлаўская, Васкрэсенская, Калядная, Івана-Прадцечанская і Варварынская.

У Нясвіжскай Прэабражэнскай царкве ўкрадзены: рыза чорная гарусная старая, епітрахіль брызентавы чырвоны таксама стары, кадзільніца жоўтай медзі старая, кацельчык жоўтай медзі для асвячэння вады стары, чатыры алавяныя падсвечнікі, тры невялікія свечкі, адзін малітвеннік стары і адна ікона сходу Святога Духу.

У святара гэтай царквы Паўла Папова былі забраны: драўляная агароджа каля хаты і гумна, а таксама 30 вазоў дроў і дрэва, прыгатаванае для рамонту хаты. З маёнтка забраны жывёла, хлеб, коўдры, бялізна, абутак, палатно, медны і жалезны посуд — усяго на 197 рублёў серабром. У сялян, якія належалі царкве, узята ўсяго на суму 58 рублёў 60 капеек серабром. Акрамя таго, у святара Папова, дзяка Плышэўскага і сялян гэтай царквы страўлена яравога жыта на 27 дзесяцінах і сенакосу на 12 дзесяцінах. У святара Капыльскай царквы Дашкевіча забралі рознай жывёлы, адзення, бялізны, абутку, хлеба, посуду і ўсялякіх прыпасаў на суму 177 рублёў 40 капеек серабром, а наяўнымі грашыма — 74 рублі; у святара С. Чаховіча— 101 рубель 75 капеек серабром.

У астатніх цэрквах, мусіць, страты былі невялікія, калі яны не ўспомнены. У Нясвіжы і Капылі, як бачым, усё падлічана да апошняга лахмана і свечкі. Усяго на суму 608 рублёў 75 капеек серабром. Калі дапоўніць царкоўныя страты, набярэцца, можа, 1000 рублёй, няхай нават дзве. Хаця святыя айцы тут, відаць, добра схітравалі. Касцёлы і уніяцкія цэрквы не заяўлялі аб рабаванні. Жандары былі са сваіх, мясцовых, па 40—50 чалавек на павет. Рабавалі цэрквы дэзерціры, якія туляліся па лясах.

Паглядзім цяпер, што ўзяла расійская армія. З архіва яе галоўнага штаба вядомы загад № 284 ад 9 студзеня 1813 года з Бромберга (там тады знаходзілася стаўка М. І. Кутузава) Рахманаву. «З ліку гвалтам узятых маёй арміяй рэчаў ад ворага ў Нясвіжы і якія знаходзяцца цяпер у Мінску, абавязваю Ваша Правасхадзіцельства:

1) Старажытныя медалі і манеты, якім Вы даеце спісак і якія я прыкладваю пры гэтым, адправіць у Харкаўскі Універсітэт;
2) Наогул царкоўныя рыштункі адаслаць у Маскоўскі Сабор з Вашым пісьмом і пералікам усяго;
3) Самыя рэдкасці і старажытнасці перадаць Правадзейнаму Саветніку Валуеву;
4) Усё, што застанецца і не мае вялікага значэння і кошту, прадаць з аўкцыёна і далажыць мне, колькі атрымана грошай. Грошы і што не прадалі перадаць Правадзейнаму Саветніку Валуеву».

Камандзір 14-га егерскага палка А. І. Красоўскі пісаў у мемуарах, што ў замку яны знайшлі больш як на мільён каштоўнасцей. Усе трафеі на 40 вазах пад моцнай аховай павезлі праз Бабоўню, Пясочнае, Узду, Мінск на Бабруйск. Быў тады лістапад месяц і Напалеон яшчэ не пераходзіў Бярэзіны. Акт рабаўніцтва пацвярджае і адмірал Чычагаў, камандуючы Дунайскай арміяй, у рапарце М. І. Кутузаву. Ніхто, праўда, не прыводзіць сумы і пераліку рэчаў у пазнейшай гістарычнай літаратуры. Але з многіх крыніц ясна, што ўзята не меней як на мільён рублёў па тагачасным курсе. У той жа год з Нясвіжа вывезлі люстэркі галандскія, бронзу, шпалеры са сцен. Частку багацця расцягнулі генералы арміі, якая выйшла з Мазыра і Бабруйска і амаль без сутычак з ворагам павольна ішла ў Прусію. У Нясвіжы гэтая армія трохі затрымалася. Усё, што засталося ад генералаў, трапіла ў музеі Расіі, асабліва ў Эрмітаж. А грабіць было што. Ю. Нямцэвіч пісаў, што ў Нясвіжскім замку ў часы Карла Радзівіла (самага багатага чалавека на ўсю Рэч Паспалітую) былі 12 апосталаў вышынёй у два футы, адлітыя з золата. Ю. Крашэўскі сцвярджаў, што ў замку скарбы займалі тры вялікія залы, набітыя ўсялякай старажытнасцю — ад карцін і габеленаў да 12 драўляных коней пад сядлом з вупражжу рэдкага харaства. Былі там каштоўныя камяні, галаўныя ўборы, гадзіннікі, нашыйнікі, бранзалеты, шашкі ў залатой аздобе, булавы і нават зброя індзейцаў. Дарэчы адзначым, што перад падзелам Польшчы ў 1762 года ў нясвіжскіх Радзівілаў у Літве (цяперашняй Беларусі) было каля 5000 вёсак, якія давалі 40 мільёнаў рублёў прыбытку ў год. Было за што набываць каштоўнасці.

Усё гэта некуды паціху знікла, засталіся толькі замак і маёнткі.

Рабаўніцтва замка нават абгрунтоўвалі. У шэрагу кніг і артыкулаў праводзілася думка, што расійскае войска забрала тое, што Д. Радзівіл вёз з Масквы і ні больш. Для бяспраўнай Літвы гэтага быццам было дастаткова. Прыкра прыгадваць, што такія тэндэнцыі маюць месца і цяпер. В. Кажарынаў у нарысе «Последняя авантюра Наполеона» («Советский спорт», 1992 г.) піша, што па загаду Напалеона палкоўнік Куперэн даставіў у Нясвіж з Масквы трыццаць вазоў усялякага скарбу. Разам з камендантам Бугельскім і слугамі ўсё было схавана. Застаўся выпадкова адзін каваны сундучок. У ім знайшлі ніткі жэмчугу, сярэбраныя табакеркі, медальёны і нават злітак архірэйскага посаха, усыпаны брыльянтамі. Было там многа залатых і сярэбраных манет. Частку скарбаў знайшлі рускія салдаты і забралі назад у Маскву. Частка яшчэ спачывае ў скляпеннях замка. Яе трэба было б пашукаць — гэта ж «кроўнае» расейскае. (За 70 год неяк не было калі). Слуг тады знішчылі, сведак няма. Бясспрэчна адно: бедныя Радзівілы хацелі пажывіцца за кошт Расіі!

Рускія ўлады помсцілі Даменіку Радзівілу за дапамогу і ўдзел у вайне на баку французаў. Разам з нашымі землякамі-салдатамі ён прымаў удзел у Барадзінскім пабоішчы і вярнуўся назад. Памёр у Францыі ў 1813 годзе ад кантузіі. З нашчадкаў засталася малалетняя дачка. Маёмасць была секвестравана. Толькі ці не праз дваццаць год нешта вярнулі з дазволу цара. Невялікая частка ўсяго нарабаванага была вернута Радзівілам у 1904 годзе. Добра захаваўся толькі архіў Вялікага княства Літоўскага, Літоўская метрыка (цяпер у Маскве) і іншыя больш дробныя дакументы. Дарэчы, у гэты час некуды знік арыгінал Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года — асновы нашай рэлігіі, уніяцтва. Сучаснікі казалі, што яго забралі праваслаўныя святары і недзе замуравалі. У 1840 годзе Расія прызнала гэтую унію несапраўднай і абʼявіла ўвесь край праваслаўным. Трэба адзначыць, што свой нацыянальны каларыт беларусы захавалі, нягледзячы на вялікі царкоўны прыгнёт і бяспрыкладную русіфікацыю. Мы можам ганарыцца гэтым.

Верагодна, што і 12 апосталаў таксама ўкралі рускія генералы ў 1812 годзе. Гэтых апосталаў шукалі пазней у замку і ваколіцах рускія і немцы ў першую сусветную вайну, палякі пасля вайны, бальшавікі ў 1939 годзе і пазней. Нічога пакуль няма. Канешне, шукаць нясвіжскія скарбы трэба. але шукаць не ў Нясвіжы, дзе малая верагоднасць што-небудзь знайсці, а ў музеях ці сховішчах Масквы і Санкт-Пецярбурга.

Абірала нашы слуцкія мясціны Расія як магла. У 1839 годзе, перад адменай уніі і пасля паўстання 1831 года, з касцёла ў Гавязне (заснаваны ў 1640 годзе) была вывезена ў Пецярбург бібліятэка бенедыктынак. У 1866 годзе гэты касцёл, як і многія іншыя, перарабілі на царкву, забралі ікону Дзевы Марыі. Тое самае зрабілі з многімі касцёламі і манастырамі.

У верасні 1939 года Нясвіж заняла Чырвоная Армія. Была створана камісія па ўліку трафеяў. В. Катаеў у кнізе «Почти дневник», выдадзенай у 1962 годзе, прыпамінае, што ўсе залы былі не пустыя. Мэбля з розных парод дрэў, агромністыя, у тонкіх залачоных рамках люстры, сталы засцелены дарагімі сурвэткамі з вышыўкамі, на сталах кветкі ў дарагіх вазах, у шафах — кнігі, замежныя часопісы. Паляўнічая зала выслана скурамі мядзведзяў, ваўкоў, лісіц, на доўгіх сталах была раскладзена зброя — пісталеты, мушкеты, кінжалы, штуцэры, стрэльбы. На сценах у аправе віселі рогі аленяў, ласёў, іклы дзікоў. Апошнія былі апраўлены ў золата і зашчэмлены папарна. Усе гэтыя экспанаты атрымалі вышэйшыя прэміі на выставах паляўнічых трафеяў. У рыцарскай зале было поўна даспехаў — шлемаў, нагруднікаў, набедраннікаў, рыцары ў латах стаялі ўздоўж сцен, былі нават рыцары-коннікі са стравусавымі перʼямі на шлемах.

Калі ў 1941 годзе прыйшлі немцы, замак быў амаль пусты. Сёння там санаторый. Ад былой велічнасці няма і следу.

Трэба падкрэсліць бясспрэчны факт грабяжу нашага краю Расіяй на многія мільёны рублёў. Усё гэта недзе там, у сховішчах ці дэманструецца ў музеях. Цяпер нам яго не ўбачыць. Недзе ж у Расіі нехта гэта ўсё ўлічваў і апрыходаваў. Можа, нават ацэньваў у рублях.

14 лютага 1992 года ў Мінску члены СНД падпісалі пагадненне «О возвращении культурных и исторических ценностей государствам их происхождения». Але 22 мая 1992 года тэлебачанне Астанкіна паведаміла, што Расія скасавала гэтае пагадненне. Цяпер людзі маюць права запытаць: «Дзе праўда?» А яе неабходна дабіцца. Прычым, трэба каб ведалі жыхары ваколіц Нясвіжа і Мінскай вобласці, што ад нас узялі. Сёння горад Нясвіж не можа сабраць музей, а наша багацце, заробленае нашымі продкамі, цешыць людзей у Маскве ці Санкт-Пецярбургзе. У свой час ідэолагі КПСС кляймілі ганьбай англійскіх імперыялістаў, якія вывезлі помнікі старажытнай культуры з Грэцыі, Егіпта, Індыі. Цікава, як паставіцца культурная Расія да гэтай праблемы сёння? Можа, варта людзям звярнуцца да, пакуль што, самага дэмакратычнага прэзідэнта Расіі? Павінен жа старэйшы брат паважаць малодшага.

**Вячаслаў ПІЛІПЧЫК.**

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Казка пра горад, у якім не разбуралі храмаў, не зносілі могілкі, не заганялі ў калектар рэкі, не знішчалі рынкі, не мянялі старых назваў, не цураліся роднага слова... Тота што казка.**

●

**З часоў камбедаў тыя беды, ідэі труцілі народ, ці не ў генетычны код заклалі, што найлепшы — бедны.**

●

**Вось каб тыя грошы, што зарабляем цяпер, і тыя цэны, што былі раней, і каб цэны не раслі, а зніжаліся, а тавараў выпускалі ўсё больш, дык у магазінах нічога не засталося б, бо кожны назапашваў бы на чорны дзень.**

●

**Чаго крыўдаваць на свет наваколны і наш тэмперамент лядачы, хіба мы, сябры, ні на што ўжо не здольны, зірніце на нашы дачы!**

●

**У слоў свая геаграфія, свая сістэма каардынат, ці адолее чужая «мафія» наш родны «блат»?**

●

**Заняпад бальшавікоў — эра новых вестуноў. Ледзь цяжарных не бывае, хто скрануўся, той пайшоў. Будзь гатоў між вестуноў новых згледзець Ільічоў.**

●

**— Хаос, а неяк круцімся. — Дружа, і ў космасе так.**

●

**...Узрушаная і радасная, выпраменьваючы святло, бегла насустрач, а я ліхаманкава ўспамінаў, дзе гэта мы бачыліся, пакуль не пранеслася міма, на мяне нават не зірнуўшы, і кінулася камусьці на шыю. Веру, цуды не паўтараюцца, зваротнай дарогі няма, і ўсё ж такі — што, як фартуна памылілася?**

●

**«Цой будзе жыць у нашых сэрцах!» Як перамяніўся час! Пісалі ж «Ленін».**

●

**Сурдалагапеды побач з намі, навучыце нас не балбатаць, трэба добра памахаць рукамі, каб пра нешта хоць бы што сказаць. Будзеш эканоміць кожны зык, як не стане малаціць язык.**

●

**Эпохі розум, гонар і сумленне... ахвярнасць МУС... лагоднасць КДБ... Якім наборам дзіўных уяўленняў я абавязан, партыя, табе!**

●

**— ...І ўзначалілі магутны інстытут Чарненка ў Маскве і Малафееў тут.**
**— Не інстытут — дзяржава!**
**— У тым-та і справа.**

●

**Слова ў дыскусіі. «За новыя ганаровыя! — заклік цвярозы. Прапаную тытулы «маршал прозы» і па падабенству «генералісімус прыгожага пісьменства»: сапраўдныя генералы клюнуць на прычындалы, несапраўдныя генералы плюнуць на прычындалы.**

●

**Астраномы, астраномы, як вам падабаецца, касманаўт на касмадроме з астролагамі раіцца.**

●

**Белы лайнер у сіняве, асенняе сонейка, Кастра, Кастра ў Маскве, не Фідэль — Вяроніка. О Марыяна, зорка экрана, у пару без герояў ты наша мроя!**

●

**— Як вывесці мне формулу свабоды? Як розніць між калючкамі і дротам? Калючкі ж гэтаксама дрот?**
**— Дык і свабода — сума несвабод.**





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў; Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 17.09.92 г. у 18.10.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12